ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!

# Каталіцкі ВЕСНІК

№11 (20) лістапад 2012 год

ГАЗЕТА ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

Кошт свабодны



# Нунцый наведаў Лучай

**На свята св. Юды Тадэвуша 27 кастрычніка 2012 г. у Лучай прыбыў Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці. Ва ўрачыстасці прынялі ўдзел таксама біскуп Віцебскі Уладзіслаў Блін, сакратар Апостальскай Нунцыятуры кс. Філіпа Чампанэлі, святары з Мінска і іншых парафій, шматлікія вернікі, дзеці і моладзь. На святкаванне прыбыла і вялікая група дзяцей разам са сваім душпастырам з Нарачы.**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст;*

**с. Марына Брылёнак**, *фота*

Людзі заўсёды адзначалі святы, гадавіны, юбілеі найбольш урачыстым чынам. У Касцёле на працягу літургічнага года мы адзначаем найважнейшыя для нашай веры падзеі: Нараджэнне Хрыста, Яго муку і Уваскрасенне, Спасланне Духа Святога, святы Маці Божай і дні нараджэння для неба святых, якіх узгадваем у літургіі. Святкаванне патрэбна нам, бо без яго чалавек стаў бы бедным духоўна. Святкуючы, мы нагадваем сабе пра тое, што найважнейшае ў нашым жыцці, што павінна надаваць сэнс нашаму існаванню.

Вернікі парафіі Св. Юды Тадэвуша ў Лучаі вельмі добра разумеюць сэнс святкавання, надаючы святам і ўрачыстасцям таксама культурнае значэнне. Можна сказаць, што невялікая вёска Лучай ператварылася ў культурную і духоўную «сталіцу» рэгіёна. Адно за адным тут ладзяцца святы, канцэрты папулярных беларускіх гуртоў. Вялізная колькасць сіл укладзена пробашчам у добраўпарадкаванне тэрыторыі вакол касцёла, і сёння шматлікія турысты не перастаюць захапляцца каталіцкай святыняй. Турысты з Беларусі і замежжа ў любую пару года прыязджаюць у Лучай, каб палюбавацца касцёлам – шэдэўрам архітэктуры канца XVIII стагоддзя. Будаваў яго італьянскі архітэктар Карла Спамані. Сцены і зводы ўнутры касцёла распісаны знакамітым беларускім мастаком Казімірам Анташэўскім. Нядаўна Лучай святкаваў сваё 470-годдзе, якое ўрачыста адзначалася 30 верасня 2012 г.

*Працяг на стар.10*

## Увага! Акцыя з прызамі!

**Дарагія сябры!**

Ужо пачалася падпіска на 1 паўгоддзе 2013 года. Заахвочваем вас падпісацца на "Каталіцкі Веснік"! Зрабіць гэта можна ў любым аддзяленні Белпошты.



У сувязі з падпісной кампаніяй "Веснік" праводзіць акцыю з прызамі. Дашліце нам дзве падпісныя квітанцыі і атрымайце прыз! Вы можаце падпісацца самі, а таксама падпісаць свайго сябра. Падарыце Добрую Вестку родным і блізкім!

Чакаем вашых лістоў з квітанцыямі аб падпісцы! Не забудзьцеся выразна ўказаць на канверце зваротны адрас. **Кошт "Весніка" ў новым паўгоддзі на 1 месяц – 2550 руб., на 3 месяцы – 7650 руб., на 6 месяцаў – 15300 руб.**

**Наш падпісны індэкс – 63783.**

Акцыя працягваецца да 31 снежня. У канверце павінна быць адна квітанцыя на 6 месяцаў, а другая – на любы тэрмін.

Кожны, хто дашле ў рэдакцыю ліст з дзвюма падпіснымі квітанцыямі, атрымае прыз!

**Заставайцеся з намі!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# НІКОЛІ НЕ ПОЗНА

**Святы Айцец паведаміў 7 лістапада падчас агульнай аўдыенцыі, што “параненейшаму з вялікай заклапочанасцю” сочыць за трагічнай сітуацыяй вакол канфлікту ў Сірыі, “дзе баявыя дзеянні не спыняюцца і з кожным днём колькасць ахвяр расце, што суправаджаецца невымоўнымі пакутамі шматлікіх грамадзянскіх асоб, асабліва тых, якія былі вымушаныя пакінуць свае дамы”.**



Папа нагадаў, што ў “знак уласнай салідарнасці і салідарнасці ўсяго Касцёла з сірыйскім народам” хацеў адправіць дэлегацыю Сінадальных айцоў у Дамаск. “На жаль, з-за розных абставінаў і падзей не ўдалося ажыццявіць гэтую ініцыятыву, як планавалася, і таму я вырашыў даручыць спецыяльную місію кардыналу Роберу Сара, старшыні Папскай рады “Cor Unum”, – паведаміў Пантыфік і дадаў, што “з сённяшняга дня да 10 лістапада ён будзе знаходзіцца ў Ліване, дзе сустрэнецца з пастырамі і вернікамі Цэркваў, прысутных у Сірыі.

Ён наведае шматлікіх уцекачоў з гэтай краіны і правядзе нараду каталіцкіх дабрачынных установаў, якіх Святы Пасад настойліва прасіў аказаць дапамогу сірыйскаму народу ў межах і за межамі краіны для каардынацыі намаганняў”.

Бэнэдыкт XVI запэўніў у сваёй малітве і чарговы раз запрасіў бакі канфлікту “не шкадаваць намаганняў у пошуках міру” і “шляхоў да справядлівага суіснавання”. “Ніколі не позна працаваць на карысць міру!” – адзначыў Святы Айцец.

*Паводле vatican.by*

# Пажаданні Абаму



**“Калі Абама хоча па-сапраўднаму быць Прэзідэнтам усіх амерыканцаў, ён павінен, нарэшце, прыслухацца да прапановаў, якія сыходзяць ад рэлігійных супольнасцяў на чале з Каталіцкім Касцёлам”, – адзначаецца ў “L’Osservatore Romano”.**

Ватыканская газета падкрэслівае, што гаворка ідзе пра ўмацаванне натуральнай сям’і, пра клопат аб жыцці і рэлігійнай свабодзе. У сувязі з пераабраннем Абамы яшчэ на адзін тэрмін ватыканскі орган друку адзначае, што Прэзідэнту “будзе нялёгка адказаць на тыя шматлікія выклікі, якія яго чакаюць як ў палітычнай, так і эканамічнай сферах”.

Тут называюцца праблемы з беспрацоўем, вывад войск з Афганістана, кіраванне дынамікай так званай арабскай вясны, барацьба з тэрарызмам, больш рашучыя дзеянні ў сувязі з канфліктам у Сірыі, пошук эфектыўнага вырашэння палесцінскага крызісу і пытанняў, звязаных з іранскай атамнай праграмай.

“Ці будзе здольнай краіна, у якой задзейнічаны лепшыя сілы, вырашыць унутраныя эканамічныя праблемы і пацвердзіць сваю гістарычную ролю сусветнага лідэра, якая на працягу апошніх гадоў становіцца ўсё больш няяснай?” – задаецца пытаннем “L’Osservatore Romano”.

Ватыканская газета прыводзіць словы Міта Ромні, суперніка Абамы ў прэзідэнцкай гонцы, сказаныя пасля віншавальнага тэлефанавання апаненту: “Гэта час вялікіх выклікаў для Амерыкі, і я малюся за тое, каб Прэзідэнт меў поспех у кіраванні краінай”. “Пасля цяжкай і не без моцных удараў выбарчай кампаніі, гэта, магчыма, лепшае пажаданне для будучыні Злучаных Штатаў”, – адзначае “L’Osservatore Romano”.

*Паводле vatican.by*



# Час прабачэння

**«Як бы ні развівалася гісторыя, настаў час для ўзаемнага прабачэння, вяртання да сяброўства і даверу. Гэта магчыма толькі пры апоры на хрысціянскае сумленне. Рух нашых народаў насустрач адно аднаму – патрабаванне самога жыцця», – адзначыў старшыня Аддзела знешніх царкоўных сувязяў Маскоўскага Патрыярхату Мітрапаліт Іларыён, каментуючы візіт Патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі Кірыла ў Польшчу, які адбыўся ў жніўні сёлета.**

Як падкрэсліў праваслаўны іерарх у інтэрв’ю «Расійскай газеце», у гісторыі адносінаў рускага і польскага народаў неаднаразова здаралася, што «агульныя хрысціянскія каштоўнасці, славянскія карані і блізкае суседства перамагалі дух адчужэння». «Толькі аб’ядноўваючы нашы намаганні, народы Расіі і Польшчы змогуць унесці свой важны ўклад у захаванне хрысціянства ў сучаснай Еўропе», – дадаў Мітрапаліт Іларыён.

Па словах прадстаўніка Маскоўскага Патрыярхату, падрыхтоўка Сумеснага паслання кіраўніка Рускай Праваслаўнай Царквы і старшыні епіскапату Польшчы была прадыктавана «імкненнем шукаць агульнае для абодвух народаў у іх служэнні будучыні чалавецтва». Як інфармуе афіцыйны сайт Патрыярхату, Мітрапаліт Іларыён дадаў, што дакументу далі высокую ацэнку Святы Айцец Бэнэдыкт XVI і іншыя іерархі Каталіцкага Касцёла.

Мітрапаліт узгадаў таксама пра сваю сустрэчу з Папам падчас Сіноду Біскупаў па новай евангелізацыі. Як адзначыў старшыня Аддзела знешніх царкоўных сувязяў, Пантыфік цікавіўся сучасным жыццём Рускай Праваслаўнай Царквы, была закранута тэма развіцця супрацоўніцтва паміж праваслаўнай Сінадальнай біблейска-тэалагічнай камісіяй і Кангрэгацыяй Веравучэння. Асаблівая ўвага была ўдзелена праблеме перасьледу хрысціянаў і прафанацыі святынь у розных краінах.

*Паводле catholic.by*

# Раўнапраўе?

**Урад Францыі 7 лістапада 2012 г. ухваліў законапраект, які дазваляе людзям аднаго полу заключаць «шлюбы» і станавіцца прыёмнымі бацькамі. Законапраект быў прыняты, нягледзячы на пратэст Каталіцкага Касцёла і апазіцыі.**

Па словах французскага міністра па справах сям’і Дамініка Бэрціноці, якія прыводзіць агенцтва «Інтэрфакс», гэта «важны крок на шляху да раўнапраўя».

Нагадаем, што французскія біскупы неаднаразова выказваліся супраць прызнання ўрадам гомасэксуальных сужэнстваў і іх правоў на ўсынаўленне дзяцей. У прыватнасці, арцыбіскуп Парыжа кардынал Андрэ Вэн-Труа падкрэсліваў, што дзецям патрэбны бацька і маці для таго, каб сфармаваць сваю ідэнтычнасць, і такім чынам Касцёл не прэзентуе нейкае новае меркаванне, але тую ж думку, што і «ўсе народы ад пачатку стагоддзяў».

*Паводле catholic.by*

# МАЛІТВА ЗА АХВЯР

**Каталіцкі Касцёл 2 лістапада ўспамінаў усіх памерлых. У гэты дзень Апостальскі Нунцый у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці памаліўся за ахвяр вайны і рэпрэсій у Мемарыяльным комплексе "Трасцянец" і ва ўрочышчы Курапаты. Арцыбіскуп усклаў да помнікаў кветкі ў знак ушанавання памяці загінулых.**




У той жа дзень падчас Святой Імшы ў касцёле святых Сымона і Алены ў Мінску разам з Апостальскім візітатарам для грэка-католікаў у Беларусі архімандрытам Сяргеем Гаекам, Першым сакратаром Апостальскай Нунцыятуры кс. Філіпам Чампанэлі, дырэктарам Душпастырскага цэнтра пры Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі кс. Эдмундам Друзам і іншымі святарамі і вернікамі Апостальскі Нунцый памаліўся за беларускіх ахвяр.

У сваёй гаміліі арцыбіскуп адзначыў: "Пан Езус Хрыстус сам склікаў нас сюды ў дзень, калі ўвесь Каталіцкі Касцёл, рассеяны па свеце, узгадвае сваіх памерлых вернікаў, узносячы за іх малітвы, перадусім яднаючыся з Ахвяраю Хрыста, свайго Добрага Пастыра, які таксама памёр і ўваскрос як Першынец сярод тых, хто перамог смерць... Таму хоць магчыма спаліць нашыя целы і сэрцы, але немагчыма скаваць ланцугамі нашыя душы, ані згасіць надзею. Нішто не губляецца, нішто не забываецца. Таксама і чалавечая мізэрнасць нас, грэшных, якія ўсёю душою імкнуцца да ўваскрашэння", – гаворыць Нунцый.




Клаўдыё Гуджэроці ўзгадаў прыклады "сыноў і дачок нашай каталіцкай сям'і, якія разам з праваслаўнымі, габрэямі і мусульманамі, а таксама з усімі людзьмі добрай волі" сталі "праз сведчанне свайго мучаніцтва гонарам нашага Касцёла". Гэта айцы-марыяне Юры Кашыра і Антоні Ляшчэвіч, францішкане Ахілес Пухала і Герман Стэмпень, святары Генрых Глябовіч, Мечыслаў Багаткевіч, Уладзіслаў Мацковяк, Станіслаў Пыртак, экзарх беларускіх грэка-католікаў Антон Неманцэвіч. Таксама гэта "простая жанчына з народа – благаслаўлёная Марыяна Бярнацкая", якая, калі хацелі забіць яе нявестку, што насіла пад сэрцам дзіця, аддала сябе замест яе. Гэта і святар Адам Станкевіч, які "любіў вашую мілагучную беларускую мову, якая сёння свабодна гучыць у нашых касцёлах", якога "не раз арыштоўвалі і нарэшце асудзілі на 25 гадоў зняволення".

Арцыбіскуп Гуджэроці нагадаў і пра кардынала Казіміра Свёнтка, з якім "наш Касцёл зноў заквітнеў, і калі сёння мы можам тут маліцца, дык абавязаны гэтым такім людзям, як ён".

Завяршыў сваю гамілію арцыбіскуп малітвай аб тым, каб Бог благаславіў "гэты народ, гэтую шматпакутную і збалелую зямлю" і ў нашай зямной вандроўцы ўчыніў, каб "праз заступніцтва ўсіх памерлых, забітых сляпым гвалтам, загаіліся раны душы і цела і ўмацавалася вера".

Пасля Імшы ў касцёле адбылася малітва нешпараў і працэсія за памерлых.

*Паводле nunciature.catholic.by*
*Аўтар фота В. Палінеўскі*

# Адпустовая ўрачыстасць у Лаздунах

**Касцёл узгадвае апосталаў Сымона і Юду Тадэвуша 28 кастрычніка. У гэты дзень у парафіі ў Лаздунах (Гродзенская дыяцэзія, Іўеўскі дэканат) адбылася адпустовая ўрачыстасць. Па запрашэнні пробашча кс. Андрэя Бурака на свята прыбылі духавенства і вернікі з навакольных парафій.**

■ **кс. Юрый Марціновіч**, *тэкст;*
**Ілля Буйніцкі**, *фота*

Святую Імшу ўзначаліў дэкан Іўеўскага дэканата кс. Ян Гавэцкі. Гамілію прамовіў пробашч парафіі Святой Сям'і ў Лідзе кс. Юзаф Ганчыц. Святар адзначыў, што ў гэты, такі важны для парафіі дзень вернікі прыбываюць да святыні, якой апякуюцца апосталы "руплівы" і "адважны", каб убачыць Хрыста і даверыцца Яму. Ксёндз Ганчыц заахвоціў аддаць Богу ўсе свае праблемы і цяжкасці "з верай, бо без яе няма Божага благаслаўлення".

Святар падкрэсліў, што сучаснаму чалавеку варта "ўзняць вочы і ўгледзецца ў Хрыста, які ёсць Богам". На заканчэнне кс. Ганчыц заклікаў вернікаў не баяцца быць святымі, бо гэта значыць "убачыць Езуса і аддаць Яму ўсё, што маем".

Напрыканцы ўрачыстасці адбылася адарацыя Найсвяцейшага Сакраманту. Дзякуючы Богу за дары і ласкі, атрыманыя асабліва праз заступніцтва св. Юды Тадэвуша ў цяжкіх справах, вернікі праспявалі гімн "Te Deum laudamus".

Пасля адбыўся канцэрт у выкананнііінструментальнага ансамбля "Rafika", у які ўваходзяць настаўнікі Іўеўскай дзіцячай школы мастацтва. Узмоцненыя духам вернікі вярнуліся да сваіх штодзённых заняткаў.

*Паводле catholic.by*




**На здымку:** пробашч парафіі ў Лаздунах кс. Андрэй Бурак.

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №11(20) лістапад 2012 г.

# УСЕ ДАРОГІ

**Трапіць на аўдыенцыю да Папы Рымскага, пакланіцца мошчам святых — мара кожнага каталіка. У пілігрымаў з Пастаўскага, Глыбоцкага і Шаркаўшчынскага раёнаў яна нядаўна здзейснілася. Дзякуючы ініцыятыве ксяндза Лучайскай парафіі Мікалая Ліпскага адбылося падарожжа па святых месцах Італіі. 10 дзён, 7 тысяч кіламетраў дарогі, бясконцая колькасць шчырых малітваў і яскравых уражанняў – такое не забываецца!**

■ **Іна Сняжкова**, *тэкст;* **Альфрэд Мікус**, *фота*




Падрыхтоўка да паездкі пачалася яшчэ ў пачатку года. Велізарную арганізацыйную работу правялі ксёндз Мікалай, парафіянка Эма Касцюк, Алена Клімза і, у першую чаргу, Агнешка Хрол – ураджэнка Шаркаўшчыны, якая ўжо дзесяць гадоў жыве ў Італіі. Яна не толькі гасцінна прыняла землякоў-беларусаў у чужой для іх краіне, але і расказала шмат цікавага і карыснага пра мясцовыя славутасці.

У дарогу! Амаль дзве тысячы кіламетраў па маляўнічых дарогах Беларусі, Літвы, Польшчы, Чэхіі, Аўстрыі, Італіі – і мы ў Венецыі, нашым першым пункце назначэння. Гэты рамантычны, не падобны ні да аднаго іншага ў свеце горад сустрэў нас цёплым сонцам і пакінуў такія ж успаміны. Бірузовае Адрыятычнае мора, гандолы і гандальеры, бясконцыя каналы і масты, стракатыя маскі, вузенькія вулачкі і, канечне, шыкоўныя славутасці архітэктуры "на чале" з саборам святога Марка – іх з памяці час не сатрэ ніколі!

Узрушаныя венецыянскай казкай, рушым далей. Па дарозе любуемся бясконцымі палямі вінаграднікаў, аліўкавых дрэў, персікаў, якія для нас такія экзатычныя. Вось і наступны прыпынак – горад Ларэта. У ім знаходзіцца адна з найвялікшых святыняў хрысціянства – Дом Маці Божай. Якім чынам ён апынуўся ў Італіі, калі Марыя жыла ў Назарэце? Паводле падання, дом, дзе расла і выхоўвалася Маці Божая, знайшла падчас



падарожжа па святых месцах роўнаапостальная Алена. Яна загадала пабудаваць над ім царкву. У XIII стагоддзі храм разбурылі крыжаносцы, і лёс святога дома стаў выклікаць апасенні. У Італіі ён апынуўся загадкавым чынам: па адной з версій, гэта зрабілі анёлы, па другой – эпірскія правіцелі.

У Ларэта вакол маленькага жытла Марыі пабудавалі агромністую "Базіліку Святога дома", якая стала адным з самых папулярных паломніцкіх цэнтраў каталіцкай Еўропы. Пілігрымы з Беларусі не толькі наведалі гэта святое месца, але і прынялі ўдзел у Імшы, якую непасрэдна ў доме Маці Божай правёў ксёндз Мікалай Ліпскі.

Магчымасцю пра-весці службу па-беларуску пілігрымы скарысталіся і ў горадзе Сан-Джавані Ратонда, славу якому прынёс айцец Піа. Тут, у мясцовым манастыры, ён пражыў больш за 50 гадоў і здзейсніў шматлікія цуды. Яшчэ пры жыцці каталіцкага святара гэтае месца наведвалі тысячы паломнікаў.

Прычына – наяўнасць на целе айца Піа стыгматаў (кроватачывасці на месцы знаходжання ран распятага Хрыста), якія зніклі толькі пасля смерці. Прычыну іх з'яўлення не ўстанавілі ні ўрачы, ні навукоўцы, што пацвердзіла думку пра святасць айца. Таму аповяды пра магчымасць "бачыць" пражытае жыццё чалавека і знаходзіцца ў розных месцах адначасова не здаюцца фантастычнымі.

Калі раней у Сан-Джавані Ратонда стаялі



# ВЯДУЦЬ У ХРАМ

агромністыя чэргі на споведзь да айца Піа, то сёння – да грабніцы з яго целам. Не пабаяліся іх і мы. Разам з дзясяткамі тысяч паломнікаў, якія наведалі Сан-Джавані Ратонда ў той выхадны дзень, мы шчыра маліліся ля месца пахавання святога айца.

Ужо ў сярэдзіне пілігрымкі ўражанняў было столькі, што хапіла б на гады. А колькі светлых эмоцый яшчэ чакала наперадзе!

Па гарах, уздоўж Адрыятычнага мора едзем на самы поўдзень Італіі, у горад Бары, які з'яўляецца мэтай нашай пілігрымкі. Штогод сюды прыязджаюць мільёны хрысціян з усяго свету, каб пакланіцца мошчам Святога Мікалая Цудатворцы. Ён быў пахаваны на тэрыторыі сучаснай Турцыі, але ў XII ст. італьянскія купцы перавезлі яго мошчы ў Бары.

Яшчэ пры жыцці Святы Мікалай праславіўся як прымірыцель ворагаў, абаронца несправядліва асуджаных. Пасля смерці яго ўшанаванне распаўсюджваецца вельмі хутка, і праз стагоддзі меншым не становіцца.

Увелічнай базіліцы, ля мошчаў свайго заступніка, ксёндз Мікалай праводзіць Імшу. Як заўсёды, яму дапамагаюць дзяўчаты з Лучайскай парафіі, якія сваімі пранікнёнымі малітоўнымі спевамі да слёз кранаюць вернікаў з усяго свету. Яшчэ неаднойчы наша група пачуе ўдзячнасць за такую прыгожую малітву.

У Бары доўга не затрымліваемся: наперадзе нас чакае Рым. Найстаражытнейшы горад, да якога вядуць усе дарогі, з першага погляду ўражвае сваёй архітэктурай. У ім сканцэнтравана такая колькасць гістарычных і духоўных помнікаў, што тыдня не хопіць, каб усё пераглядзець. Мы знаёмімся толькі з самымі вядомымі славутасцямі – папскімі базілікамі, Калізеем, Рымскім Форумам, фантанамі Трэві, пантэонам і найгалоўнейшае – з Ватыканам. Гэта цэнтр каталіцкага свету, рэзідэнцыя Папы Рымскага, самая маленькая дзяржава на планеце знаходзіцца на тэрыторыі Рыма, але ад яго абсалютна не залежыць.

Галоўны храм гэтага святога месца і ўсёй каталіцкай супольнасці – базіліка Святога Пятра, якую будавалі непаўторныя Рафаэль і Мікеланджала.

Да 1990 года сабор быў самым вялікім хрысціянскім храмам у свеце. Яго пышнаму ўбранству пазайздросціць любы касцёл на Зямлі. Па перыметры сабора бачым шматлікія шэдэўры мастацтва, каштоўныя рэліквіі хрысціянства, шматлікія грабніцы рымскіх папаў, каралёў і імператараў. Узнімаемся на купал – і з вышыні птушынага палёту любуемся сталіцай каталіцкага свету.

На наступны дзень вяртаемся ў Ватыкан зноў, каб разам з дзясяткамі тысяч вернікаў з усіх кантынентаў атрымаць бласлаўленне Папы Рымскага. Што знамянальна, менавіта з ім мы распачынаем Год веры, аб'яўлены каталіцкай Царквой.

Здаецца, эмоцый больш не засталося, але сеньёра Італія так не лічыць. Заязджаем у невялікі горад Асізі і ў чарговы раз сузіраем выключную гармонію прыроды і веры. Падымаемся ў гару, пад аблокі – і трапляем у "рэзідэнцыю" святога Францішка, які нарадзіўся менавіта ў Асізі і менавіта тут заснаваў вядомы францысканскі манаскі ордэн. Непадалёк, у яшчэ адным храме, знаходзяцца мошчы святой Клары, ля якіх таксама памалілася наша група.

І вось пілігрымка блізкая да завяршэння. Гэта быў адпачынак душы і сэрца, якія дакрануліся да найсвяцейшых духоўных каштоўнасцяў. Яны яшчэ больш узмацнілі нашу веру і надалі моцы крочыць па жыцці далей.

З Італіяй развітваемся ў Падуі. Доўгая дарога дадому багатая на ўспаміны. Яны і сёння, праз месяц пасля пілігрымкі, расквечваюць шэрую беларускую восень.



*Добрая Вестка ў тваім доме!* Каталіцкі ВЕСНІК №11(20) лістапад 2012 г.

# Хвала рукам, што пахнуць хлебам!

*"Божа, Наш Ойча, просім, прымі
Плён працы рук людскіх і плады зямлі..."*

**Гэтымі словамі песні-малітвы мы ўзносім хвалу і падзяку Пану Богу за хлеб наш надзённы і ўсе дары зямлі, што Ён нам дае дзякуючы шчырай працы вяскоўцаў. Ушанаваць працу хлебаробаў – наш пачэсны абавязак. Стала ўжо добрай традыцыяй адзначаць свята "Дажынкі" у нашым касцёле. 14 кастрычніка вернікі (амаль усе!) сабраліся разам на св. Імшу.**

■ **Аліцыя Трафімовіч**, *г. Паставы, тэкст;*
**catholic.by**, *фота*




Праграма святкавання была добра прадуманая і падрыхтаваная. У гэтым, безумоўна, заслуга нашага пробашча, святароў і сясцёр, а таксама адказных за мікрараёны і пасланцоў. Ініцыятыўная група вырашала практычна ўсе пытанні па рэалізацыі гэтай падзеі – ад рэдагавання лістоў-запрашэнняў да арганізацыі сімвалічных жэстаў і падрыхтоўкі выставы дароў зямлі.

На свята былі запрошаныя прадстаўнікі сельскіх гаспадарак і перапрацоўчых арганізацый. Усіх прысутных шчыра вітаў кс. Анджэй Возьняк. Адбылося асвячэнне вянкоў, снапоў, іншых пладоў і ўскладанне іх на алтар. Пасля ўрачыстай св. Імшы адбыўся літургічны жэст – дзяленне хлебам. Таксама быў падрыхтаваны яшчэ і жэст для ўсіх: малітва над хлебам і падзяка Пану Богу ў кожнай сям'і і суседстве. На выставе ўсе мелі магчымасць не толькі паглядзець, але і паспытаць розныя ягады і садавіну, а таксама выпіць шклянку гарачай гарбаты са смачным печывам. Кожны ахвотны мог узяць з сабой лекавыя травы з імправізаванай аптэкі.

Знакаміты калектыў "Паазер'е" падараваў нам цудоўны настрой. Ногі самі пускаліся ў скокі. Для дзетак былі падрыхтаваныя віктарыны і загадкі. Усім было хораша і весела бы ў дружнай сям'і. А мы і ёсць адна сям'я, бо Айцец у нас адзін і Маці адна для ўсіх.




## Візітацыя ў Гарадку

**Біскуп Уладзіслаў Блін 28 кастрычніка здзейсніў душпастырскую візітацыю ў парафіі Адведзінаў Найсвяцейшай Панны Марыі ў Гарадку.**

Парафія ў Гарадку была зарэгістравана 21 чэрвеня 2001 г. У раёне пражывае каля 30 тыс. чалавек. «За больш чым дзесяць гадоў колькасць парафіянаў крыху ўзрасла, што з'яўляецца і сведчаннем узрастання веры, надзеі і любові ў нашых сэрцах», – зазначыў біскуп.

Ардынарый наведаў таксама парафію св. Айца Піо ў Лёзне, дзе намаганнямі мясцовага пробашча кс. Алега Півавара і парафіянаў будуецца касцёл.

**Кс. Валерый Марціноўскі**, *тэкст і фота*



## Адчыні для Бога душу!

*Адчыні для Бога акенца ў душы,*
*Адчуй Яго пяшчоту, міласэрнасць,*
*Для каторай не існуе мяжы...*
*І прывядзе яна ў святую вечнасць!*
*Раскрый для Бога хоць частачку душы,*
*Бо без Яго чалавекам ты не станеш...*
*І колькі б у жыцці ты ні грашыў,*
*Бога ніколі не ашукаеш, не падманеш!*
*Ён бачыць усё: слязу тваю і радасць,*
*Кожны крок, што робіш на зямлі...*
*І ў цяжкі час цябе на ногі падымае,*
*Але гэтага не заўважаеш проста ты!*
*Дай Богу пасяліцца ў тваёй душы,*
*Ўпусці цяпло і ласку ў сваё сэрца.*
*Бо без іх не зможаш ты пражыць,*
*І агонь твайго жыцця не зможа разгарэцца!*
*Убач святло, што дорыць табе Ён,*
*Дае надзею, апору і цярпенне.*
*І ў час святы гучыць касцельны звон,*
*Гэты звон – Хрыста Уваскрашэнне!*
*Адчыні для веры акенца ў душы.*
*І зразумееш, для чаго табе жыццё патрэбна...*
*Прыйдзеш да шчырасці і міру на зямлі,*
*Калі ўпусціш Бога ў сваё сэрца!*

**Юлія Кісялевіч,**
*в. Войстам, Смаргонскі раён*

# Укрепляя веру



**С 11 октября 2012 года в Католическом Костёле объявлен Год веры. По словам Папы Бенедикта XVI, Год веры должен быть приглашением к действенному и новому возвращению к Христу. Святой Отец призвал доверить этот год Деве Марии.**

Год Веры должен ещё более укрепить нашу веру, сплотить нас в мире, любви и молитве. Сплочение верующих в общей молитве мы ощущаем в костёле, однако научиться бескорыстно любить, быть ближе друг к другу и к Богу нам может помочь более тесное общение в быту. Этому способствуют мероприятия, которые проводятся в приходе Святой Троицы в Глубоком.

Наш приход символически разделён на 4 района, есть около ста посланцев, которые являются своеобразным мостом, духовно связывающим людей в костёле. Ксёндз-настоятель Мечислав Янчишин и отец Станислав Помыкало стараются духовно сплотить приходскую общину не только через Евхаристию, но и через всевозможные мероприятия.

21 октября проводился «Дзень печанай бульбы». Христиане, независимо от конфессиональной принадлежности, собирались на своих улицах у костров с «печанай бульбай», молились за соседей, за своих близких, а также свободно общались, пели песни, угощались «чем Бог послал». Ради чего это проводилось? А ответ простой: Иисус ждёт от нас, чтобы мы умели радоваться встречам, в которых Он присутствует. «Где двое или трое собраны во имя Моё, там Я посреди них» (Мт, гл.18)

Выражаем огромную благодарность за идею организации таких встреч, за личное присутствие и общение в группах кс. Мечислава и о. Станислава. Пусть добрый Бог благословит их на новые идеи во имя сплочения верующих в Христа, одарит своими дарами и помогает в повседневной службе Богу и людям. Благодарим кс. Эдварда из Задорожского костёла за духовное присутствие и молитву.

*Прихожане костёла Св. Троицы с улицы и переулка Пушкина, г. Глубокое*



**На снимке:** самый маленький участник встречи.

Дунілавічы

# Моц веры

**У парафіі Найсвяцейшай Тройцы ў Дунілавічах (Віцебская дыяцэзія, Пастаўскі дэканат) 20 кастрычніка 2012 г. адбылася сустрэча моладзі. "Моц веры" – так гучала назва спаткання. Удзельнічалі ў сустрэчы маладыя вернікі з Дунілавіч, Варапаева і Ляхаўшчыны.**

**■ с. Марына Брылёнак**

На самым пачатку пробашч парафіі Найсвяцейшай Тройцы кс. Павел Самсонаў прывітаў хлопцаў і дзяўчат, якія прыехалі, каб супольна разважаць над верай, з'яднацца ў малітве і, канешне ж, разам правесці хвіліны радасці ў забавах.

Падчас канферэнцыі, якую прамовіў кс. Чэслаў Куцмеж, прагучаў заклік да моладзі. Заклік да таго, каб кожны задумаўся над сваёй верай: ці яна сапраўды жывая? Ці наша вера праяўляецца ў адносінах да іншых людзей, якія вакол нас? Ці нашыя ўчынкі сведчаць пра тое, што мы хрысціяне? Святар зазначыў, што мы не можам быць толькі вернікамі ў святыні, што мы павінны сведчыць аб сваёй веры паўсюль, дзе знаходзімся: у школе, у краме ці ў супольнасці з сябрамі. Кс. Чэслаў прыгадаў словы св. Якуба, што "вера без учынкаў мёртвая", таму трэба старацца, каб наша адзінства з Езусам было заўсёды дзейснае і жывое.

Пасля канферэнцыі моладзь праявіла свае творчыя здольнасці падчас працы ў групах. Вынікамі сталі калажы на тэму "Вера для мяне – гэта...". Потым усе з'ядналіся ў супольнай ружанцовай малітве і св. Імшы.

Другая частка сустрэчы распачалася вячэрай, а пазней настаў доўгачаканы "вясёлы вечар". Забаўляльная праграма прайшла ў атмасферы радасці і еднасці.

Напрыканцы спаткання ўдзельнікі цёпла падзякавалі кс. Паўлу Самсонаву за запрашэнне і за гасціннасць.



# Лучай запрашае!

**Лучай запрашае на наступныя падзеі:**

**18 лістапада (нядзеля)** – канцэрт гурта «Нельга забыць» – сёлетняга пераможцы фэстывалю «Бардаўская Восень». Таксама госцім у нас беларускае тэлебачанне.

**Пачатак:** святая Імша ў касцёле а 10-й гадзіне. **Сардэчна запрашаем!**

**1 снежня** (месца правядзення - Навасёлкі-1, парафія Лучай)

Моладзевая сустрэча «Андрэйкі і запусты»

Тэма: « Маё чаканне»

**16.00** - з'езд удзельнікаў
**16.15** – прывітанне
**16.30** – канферэнцыя
**17.20** – сцэнка
**18.00** - падрыхтоўка да св. Імшы
**18.30** - святая Імша
**19.30** – вячэра
**20.00** - Адарацыя Найсвяцейшага Сакраманта
**21.00** вясёлая частка ( канцэрт гурта «RECHA» і танцы)

**9 снежня (нядзеля)** – «Мікалайкі». З нагоды ўспаміну св. Мікалая ў Лучайскім касцёле адбудзецца канцэртная праграма для дзяцей і пілігрымаў, якія сёлета былі ў Італіі ля грабніцы Святога Заступніка.

**Запрашаем таксама ўсіх жадаючых. Пачатак а 12-й гадзіне.**

Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №11(20) лістапад 2012 г.

# Галіна Юхнавец: “Любіце тое, што робіце”!

**Галіна Альбінаўна Юхнавец ужо дзевяць гадоў працуе гаспадыняй на плябаніі. Гэта чалавек, які заўсёды падтрымае святара ў нялёгкай працы і пачастуе смачным абедам, дапаможа пры капліцы і скажа цёплае слова ўдзячнасці.**

***Гутарыла Ірына Грэйць***



**– Галіна Альбінаўна, раскажыце, калі ласка, як распачыналася Ваша дзейнасць гаспадыні?**

– У нашым г.п. Бягомлі парафія невялікая. Раней людзі не мелі месца для малітвы, таму збіраліся ў хатах парафіян. А для супольнай Святой Імшы да нас прыязджалі святары з Докшыц. Біскуп Уладзіслаў Блін паабяцаў накіраваць у нашую парафію ксяндза. Нам далі невялікі будынак для капліцы, у якім да гэтага часу прадавалі газу. У хуткім часе біскуп прыслаў нам ксяндза Артура Рудуся. 2003 год стаў вельмі нечаканай і радаснай падзеяй для вернікаў. Пакуль у Бягомлі не было плябаніі, ксёндз Артур жыў у маім доме. З гэтага часу і пачалася мая дзейнасць гаспадыні.

**– А калі ў Бягомлі з’явілася цяперашняя капліца?**

– Неўзабаве ксяндза Артура перавялі ў іншую парафію. Няшмат прабыў у нас і ксёндз Андрэй Трачык. Ужо ў 2004 годзе да нас прысылаюць святароў Леаніда Мозгеля і Яна Ганцарыка, якія разам пачалі будаваць цяперашнюю капліцу з былой гасцініцы. Пакуль святары таксама жылі ў мяне на кватэры. Біскуп Уладзіслаў часта наведваў сваіх парафіян. Усе мы, вернікі, пасля асвячэння капліцы вельмі радаваліся, што маем сваё ўласнае месца для малітвы. У 2005 годзе ў парафіі працаваў ксёндз Арманда з Італіі разам з дыяканам Валерыем Орсікам. Дыякан хутка прыняў святарскае пасвячэнне і застаўся працаваць у Бягомлі. У 2006 годзе было скончана будаўніцтва плябаніі. Пачынаючы з 2009 года і да гэтага часу, нашым святаром з’яўляецца ксёндз Віктар Місевіч.

**– У чым заключаецца Ваша асноўная праца?**

– Мая асноўная праца – прыгатаванне ежы, навядзенне парадку ў плябаніі. Летам разам з парафіянамі мы сустракаем пілігрымаў, на працягу года падтрымліваем чысціню ў капліцы. Заўсёды з радасцю кармлю біскупа і святароў, якія прыязджаюць да нас на ўрачыстасці. Цяпер я жыву адна, таму шмат часу праводжу на плябаніі, дапамагаю. Можна сказаць, што гэта мой другі дом. Ад святароў заўсёды чуеш словы ўдзячнасці, мне з імі цікава і весела. У 2013 годзе будзе мой 10- гадовы юбілей гаспадыні.

**– Што найбольш запомнілася за гэты час?**

– Зусім нядаўна здарылася такая сітуацыя. Пробашч парафіі быў за мяжой. Праз Бягомль ішло 80 пілігрымаў з Барысава, якіх мы ўжо чакалі. А вось 22 пілігрымы на роварах з Жодзіна і 19 чалавек з Баранавіч завіталі знянацку, без папярэджання. Паломнікаў патрэбна было накарміць, знайсці для іх начлег. Пілігрымы шчыра дзякавалі нашым парафіянам і мне за тое, што мы дапамаглі ім.

**– Што б Вы пажадалі іншым гаспадыням святароў?**

– Любіце тое, што вы робіце. Заўсёды шчыра і аддана дапамагайце сваім ксяндзам у іх нялёгкай працы. А яны ў сваю чаргу аддзячаць вам за шчырую дапамогу сваёй малітвай.

# Дзень маці

*“Дык вось, пакуль маем час, будзем рабіць дабро ўсім, а найбольш – блізкім па веры”*
*Гал. 6,10*

**14 кастрычніка 2012 года адбылося агульнапарафіяльнае свята, прымеркаванае да Дня маці. Блаславёны Ян Павел II сказаў: “На твары кожнай жанчыны можна заўважыць водблеск пяшчоты, пранікнёнасці, дабрыні Дзевы Марыі. Ушаноўваючы ўласную маці, вы ўшаноўваеце таксама тую, што, будучы Маці Хрыста, з’яўляецца Маці кожнага з нас”.**

**Ірына Высоцкая**



Да гэтага свята рыхтаваліся загадзя: у кожны дом быў занесены ліст “Разам да Бога” з запрашэннем на Святую Імшу. У пачатку Святой Імшы ва ўступным слове прагучала інфармацыя пра свята і мілагучны верш пра маці. У час працэсіі з дарамі да алтара неслі кветкі як знак нашай удзячнасці Маці Божай за любоў і апеку, малітоўнік “Маці ў малітве”, таму што толькі з’яднаўшыся ў малітве мы выратуем нашых дзяцей. У руках вернікаў былі таксама карткі з імёнамі дзяцей, за якіх моляцца “Маці ў малітве” з просьбай аб блаславенні для іх і ўсіх дзяцей на свеце, Ружанец, сплецены з найдаражэйшых малітваў “Ойча наш” і “Вітай, Марыя”, Катэхізіс Каталіцкага Касцёла як сімвал нашай веры, як заклік ісці шляхам запаведзяў Пана, Яго навучання і прыкладу, хлеб і віно як увасабленне нашай духоўнай працы, нашых пастаноў і цяжкасцяў у дарозе да Бога.



Прыемна было, што на свята да нас завіталі прадстаўнікі групы “Маці ў малітве” з г. Браслава. Супольная малітва яшчэ больш натхняла прысутных.

Для ўсіх было незвычайным і радасным момантам, калі ксёндз Анджэй Бочар благаслаўляў кожную маці і дарыў невялічкі букет кветак. Пробашч падкрэсліў, што маці заўсёды павінна блаславяць сваіх дзяцей, таму прапанаваў кожнай маці дома паблаславіць дзяцей, незалежна ад іх узросту.

Пасля Святой Імшы ў актавай зале мясцовай школы работнікі Далёкаўскага дома культуры прапанавалі святочную канцэртную праграму з удзелам дзяцей. Усіх гасцей частавалі прысмакамі, якія падрыхтавалі гаспадыні. Прагучала шмат добрых слоў.

Асабліва ўзрушвае тое, што гэта падзея ў нашай парафіі супала з пачаткам Года веры. Вельмі важна, каб Касцёл і свецкія ўстановы рабілі адну справу. Толькі такім чынам людзі, далёкія ад Касцёла, зразумеюць неабходнасць веры ў сваім жыцці, у выхаванні дзяцей і моладзі.

# У НЯБЕСНЫМ ВАЛАДАРСТВЕ

**Калі глядзім на нябёсы, бачым прыгожыя аблокі, сонца, месяц. Нам адкрываецца незямная прыгажосць, якую стварыў Госпад. Але, акрамя атмасферы, ёсць неба – нябачны для чалавека свет. Святое Пісанне кажа: *"Хмары – заслона Яго, там Ён ходзіць па нябесным коле".* (Ёв 22,14). *"Бо расплата за грэх – сьмерць, а дар Божы – жыццё вечнае ў Хрысце Ісусе, Госпадзе нашым".* (Рым 6,23). А што для нашых чытачоў нябёсы і жыццё вечнае?**

*Гутарыла Ірына Грэйць*



**Соф'я Віторская:**

– Неба... Неабсяжнае, бясконцае, празрыстае неба. Угледаюся ў яго і патанаю. Доўга можна глядзець на аблокі, з'яўляюцца думкі аб чалавечым існаванні. Для чаго я нарадзілася, чым павінна займацца? Ёсць шмат шляхоў, але патрэбна знайсці той, які прывядзе да Бога. Ідучы па жыцці, заўсёды маеш выбар паміж Божым і сваім уласным. Калі ж чалавек выбірае шлях граху і спакус, як ён будзе глядзець смерці ў твар? Ці спатрэбяцца тады належныя багацці і ці дапамога "сапраўдны" сябра? А далей неба або пекла... Што мы павінны выбіраць у нашым зямным жыцці, каб атрымаць Божае Валадарства? Толькі Яго волю... Прыпомніліся таксама словы на гэту тэму майстра гістарычнай прозы У. Караткевіча: "Кожны нясе сваё неба з сабой".

**Эдуард Сымановіч:**

– Калі казаць пра неба, адразу ўсплываюць думкі пра вечнае жыццё. Як і што дакладна будзе адбывацца – ніхто не ведае. Але мы, хрысціяне, верым, што жыццё пасля смерці ёсць. Разам з Госпадам і вечнасцю знаходзім справядлівасць, Божую любоў. Наша жыццё пражываем нездарма, з сэнсам, калі мы побач з Богам. Смерць чалавека не з'яўляецца скančэннем існавання чалавецтва, смерць – гэта шлях да новага жыцця, жыцця шчаслівага і вечнага.



**С. Тацццяна Салодкая:**

– Безумоўна, кожны чалавек хоча быць шчаслівым і заўсёды шукае шчасця ў сваім жыцці. Гэты пошук бывае розны: адны знаходзяць пацеху ў матэрыяльных рэчах, грашах, у адносінах з іншымі людзьмі. Пералічваць можна бясконца. А я бачу сваё сапраўднае шчасце ў Небе! Чаму? Бо там знаходзіцца мой сапраўдны дом. Там мяне заўсёды любіць і чакае сапраўдная Любоў, якая дала мне жыццё. Таму, калі я пілігрымую тут, на зямлі, заўсёды думаю аб сваёй сапраўднай мэце – Небе.



**Андрэй Калошыч:**

– У дзяцінстве я лічыў, што неба – гэта дом, дзе жыве Бог. Па праўдзе кажучы, я і цяпер так лічу. Калі яно блакітнае, свеціць сонца, то Бог у добрым настроі, калі яно хмурае – Бог у дрэнным настроі. На прагулцы, калі я размаўляю з Госпадам, гляджу на неба. Мабыць, гэта звычка звязана з "домам Бога". Неба як мара: яно ёсць, але да яго нельга дакрануцца, нельга навят падысці звычайнаму чалавеку. Неба патрэбна заслужыць, што не вельмі проста. А калі заслужыш, Бог сам цябе пакліча. Кожнага ў свой час. Напэўна, таму яно такое прыгожае. Каб мы не баяліся, а хацелі туды патрапіць. Таксама неба як асабісты псіхолаг. У якім бы стане я ні быў, яно заўжды можа мяне супакоіць. Патрэбна толькі паглядзець на яго. І неба падзеліцца сваім магутным спакоем. А гэта вялікая дапамога, каб не натварыць дрэнных спраў!



**Пётр Радзіеўскі:**

– Там, на небе, ёсць Бог, і Ён там жыве. Там вельмі хораша і бесклапотна. У небе або ў раі жывуць душы, якія атрымалі вечнае шчасце, якія пры жыцці не грашылі або заўсёды старанна клапаціліся пра свой духоўны стан. У Госпада ёсць анёлы, якія Яму дапамагаюць. Яны клапоцяцца аб тым, каб людзі не рабілі грахоў. Кажучы пра неба, я заўсёды ўяўляю рай.



# "ЎАЛІ"

**Пэўна, усе, асабліва старэйшае пакаленне, сёння засумаваліся па "мульціках", дзе расказваецца пра дабрыню, любоў і сяброўства. Кампаніі "Піксар" удалося стварыць такую стужку. І не проста стужку. Многія крытыкі называюць яе шэдэўрам.**

**■ кс. Віктар Місевіч**

Людзі пакінулі сваю планету, таму што яна сталася непрыгоднай для жыцця. Паўсюль смецце і бруд. Адны толькі робаты Ўалі змагаюцца з катастрофай. Яны запраграмаваныя толькі для аднаго: наводзіць парадак і рабіць Зямлю чысцейшай. Пасля сотні гадоў застаўся ўсяго адзін робат, які няўхільна выконвае сваю місію.

Аднак робат Ўалі асаблівы. Доўгі час самотнасці зрабіў яго чалавечным. Ён мае эмоцыі, бароніць свайго сябра-тараканчыка ад віхуры і вечарамі глядзіць старыя фільмы. За ўвесь мультфільм галоўны герой прамаўляе, бадай, толькі сваё імя. Але мастакі-мультыплікатары зрабілі каласальную працу. Ім удалося самае складанае: праз міміку маўклівага Ўалі паказаць, як ён сумуе, перажывае, марыць. Вочы робата – гэта два аб'ектывы. І ўсётакі здаецца ў некаторых момантах, што вось-вось адтуль выкаціцца слязінка.

Шчымлівых момантаў шмат. Чаго толькі варты той, дзе Ўалі з крыкам "Еваааа!" кідаецца за сваёй новай знаёмай, каб яе ўратаваць. Ева – гэта іншы робат, пасланы на Зямлю, каб праверыць, ці аджыла планета, ці ёсць на ёй жыццё. І што вы думаеце? Аказваецца, робаты могуць кахаць! "Ну, яшчэ чаго!" – скажаце вы. "Закаханыя жалязякі? Такога я дакладна глядзець не буду". Паглядзіце – і не пашкадуеце. Асабіста ў мяне склалася ўражанне, што гэтыя казачныя стварэнні жывыя.

Мультфільм пра добрага робата Ўалі прыйдзецца да густу як дарослым, так і дзецям. Атмасферу закінутай Зямлі цудоўна перадалі гукарэжысёры. Лязгат металу і тэхнічныя гукі перададзены так натуральна, што, здаецца, сам апынаешся ў далёкай будучыні. Вельмі шмат добрага гумару. Падчас прагляду з вуснаў не сыходзіць усмешка, вядома, за выключэннем тых момантаў, калі так і хочацца ўскрыкнуць: "Ну, давай, сябра, ты справішся! Хутчэй!"

Стужку Ўалі варта глядзець не толькі таму, што яна захапляе сваёй якасцю. Праз творчасць мастакоў і працу праграмістаў ствара льнікі ставяць філасофскія пытанні перад гледачом: што для цябе самае важнае, чалавек? Ці заўважаеш ты, што жыццё на Зямлі – гэта дар, а прырода – гэта багацце?

Людзі, якія пакінулі Зямлю, каб уратавацца ад смецця, паказаныя абібокамі і ляніўцамі. Яны жывуць на касмічным караблі ў выгодах, дзе за іх усё робяць робаты-служкі. Дзяцей выхоўваюць робаты, няма жывых кантактаў, а толькі праз экраны суперсучасных планшэтаў. Жыхары карабля неймаверна тоўстыя і не могуць зрабіць пары крокаў. А што тут дзіўнага, калі яны ўвесь час праводзяць на рухомых крэслах? І такая наша будучыня?..

Робату Ўалі і яго сяброўцы Еве ўдаецца адкрыць людзям вочы на праўду. Праз іх намаганні касмічны карабель вяртаецца на Зямлю. Людзі наноў вучацца садзіць дрэвы, даглядаць расліны і проста жыць. Не выжываць у космасе, як трапна заўважае капітан карабля, а жыць.

Як не парадаксальна, але ў мультфільме "Ўалі" менавіта робаты вучаць нас чалавечнасці і жыццю. А можа, пасля прагляду стужкі хтосьці і задумаецца перад тым, як выкінуць смецце на вуліцы? Бо зірнуць на сябе збоку ніколі не позна. А файны мультфільм "Ўалі" якраз дапамагае гэта зрабіць.



Добрая Вестка ў тваім доме! Каталіцкі ВЕСНІК №11(20) лістапад 2012 г.

# Нунцый наведаў Лучай

*Пачатак на стар.1*

Сёлетняе свята ў Лучаі мела некалькі нагодаў. Вернікі жадалі ўшанаваць св. Юду Тадэвуша, апекуна парафіі, які дапамагае ў цяжкіх справах і да якога трэба звяртацца асабліва тады, калі чалавек не бачыць выйсця са складанай сітуацыі. Старэйшыя вернікі Лучая падкрэсліваюць, што гэты апякун ужо не аднойчы выбаўляў ад небяспекі, якая пагражала ім і іх сем'ям. Вернікі перакананыя, што заўсёды могуць разлічваць на дапамогу святога.



Таксама ў гэты дзень арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці здзейсніў асвячэнне фігуры апостала Якуба Малодшага, устаноўленай каля касцёла. Яшчэ адной нагодай для свята стала тое, што Апостальскі Нунцый удзяліў групе з 10 чалавек сакрамант канфірмацыі. Прадстаўнік Святога Айца ўзначаліў урачыстую Імшу і звярнуўся да вернікаў у гаміліі. Іерарх адзначыў, што з часу яго прыезду ў Беларусь прайшоў год. Апостальскі Нунцый нагадаў, што пабываў за гэты перыяд ва ўсіх дыяцэзіях нашай краіны і што Віцебская дыяцэзія ўразіла яго сваёй прыгажосцю. «Вы жывяце ў вельмі прыгожым рэгіёне, дзе азёры адкрываюць душу для надзеі», — дадаў арцыбіскуп.

Звяртаючыся да тых, хто ў гэты дзень прымаў сакрамант канфірмацыі, Апостальскі Нунцый падкрэсліў, што дадзены сакрамант – гэта своеасаблівая пячатка, якой Бог пацвярджае наш хрост. Як адзначыў арцыбіскуп Гуджэроці, Езус Хрыстус – гэта камень, а трымаюць гэты камень 12 калонаў – апосталы, якім Езус даручыў сведчыць пра Бога, пакуль не прыйдзе на зямлю ў другі раз. Пад калонамі знаходзяцца маленькія калонкі – біскупы, якія працягваюць місію апосталаў. Па словах іерарха, біскупы атрымалі заданне ўмацоўваць хрысціян у веры. Нунцый дадаў, што прыбыў у Лучай, каб таксама ўмацоўваць у веры кандыдатаў на прыняцце сакраманту канфірмацыі і ўсіх вернікаў.

Акрамя гэтага, арцыбіскуп Гуджэроці заахвоціў моладзь ісці па ўсім свеце, нават у самыя схаваныя куточкі зямлі, каб усюды несці Божае слова і каб дзякуючы гэтаму агеньчык Божай любові дайшоў да ўсіх людзей. Апостальскі Нунцый перасцярог маладых вернікаў перад вятрамі, гэта значыць, перад спакусамі, якія могуць загасіць гэты Божы агеньчык. Іерарх падкрэсліў, што асаблівая спакуса сённяшняга дня – спакуса павярнуцца спіной да Хрыста. Арцыбіскуп заклікаў моладзь да таго, каб агонь веры ў Хрыста, які «дае цяпло і ачышчае ўсю зямлю, перадаваць далей, несці гэтае Божае святло ва ўсе куткі зямлі».

Падчас святой Імшы адбылася працэсія з дарамі, у якой, між іншым, неслі выкананы ўручную вялікі абраз св. Юды Тадэвуша.

Пасля літургіі адбыўся прыгожы канцэрт мінскіх выканаўцаў: гуртоў «Alte Mente» і «Класік Авангард». Стала традыцыяй, што вялікія ўрачыстасці ў Лучаі завяршаюцца феерверкам, які парадаваў удзельнікаў свята і ў гэты дзень.

Праз удзел у святой Імшы, а пасля прысутнічаючы на канцэрце, вернікі адначасова праслаўляюць Бога, а разам з тым, што асабліва важна ў Год веры, памнажаюць дар веры ў сабе.

Візіт Апостальскага Нунцыя, біскупа Уладзіслава Бліна, святароў і шматлікіх пілігрымаў у Лучай стаў вялікай нагодай да радасці. Хрысціянская радасць дадзена для таго, каб перажываць яе ў супольнасці з іншымі вызнаўцамі Хрыста. Кожны перажывае свята па-свойму, аднак па-сапраўднаму яго можна адчуць толькі разам з іншымі людзьмі. Тады свята становіцца праўдзівай крыніцай шчасця і своеасаблівай духоўнай тэрапіяй.

Галоўныя крыніцы хрысціянскай радасці – вера, надзея і любоў. Ласка веры робіць чалавека шчаслівым. Варта памятаць, што магчымасць верыць у Бога, верыць Богу і верыць у праўду, аб'яўленую ў Богу, а таксама ведаць, што мы любімыя Панам і самі можам любіць (пар. Кампендый Катэхізіса Каталіцкага Касцёла, 386, 387, 388), з'яўляецца пастаяннай крыніцай радасці.

У лучайскай святыні ў гэты дзень быў час на супольную радасць, а паколькі яна з'яўляецца плёнам Духа Святога (пар. Гал 5, 22–23), то аб ёй трэба прасіць Яго ў малітве.

*Паводле catholic.by*



# СТАРАЖЫТНЫ АЛТАР

**Алтар св. Міхаіла Арханёла ў левай наве Фарнага касцёла ў Гродне з'яўляецца старэйшым нават за сам касцёл. Па словах пробашча катэдры кс. Яна Кучынскага, падчас рэстаўрацыі алтару нададуць яго першапачатковы стыль, аздобіўшы арыгінальнай захаванай разьбой, але зменяць каларыстыку алтара.**

**Алеся Бяленік**



Паводле гістарычных крыніц, алтар датуецца 1664 годам. Ён быў збудаваны ў драўляным касцёле св. Апосталаў Пятра і Паўла, а пазней быў перанесены ў касцёл св. Францішка Ксаверыя (катэдру). Паводле гістарычных давед, у Фарным касцёле гэты алтар служыў як алтар Маці Божай Кангрэгацкай. Ёсць звесткі, што служыў і галоўным алтаром. Пасля яго перанеслі ў капліцу св. Міхаіла Арханёла ў левай наве.

– *Калі мы распачалі рэстаўрацыйныя працы, то даведаліся, што ніз алтара быў перароблены,* - распавядае кс. пробашч Ян Кучынскі. - *Зараз невядома, калі адбывалася гэтая перапрацоўка. Бачна, што дрэва нестарое – яму будзе дзесьці каля ста гадоў. Верхняя частка алтара захавалася арыгінальнай. Яна знаходзіцца ў моцна пашкоджаным стане. Магчыма, яна не рамантавалася з тых часоў, а толькі перафарбоўвалася. У пэўны час яна мела цёмна-сіні колер, які быў характэрны ўсяму касцёлу.*



Па словах святара, алтар цікавы тым, што мае зусім іншы выгляд, чым усе астатнія алтары Фарнага касцёла. Таксама ён цікавы сваёй накладной разьбой, якая больш нідзе не сустракаецца. Напрыклад, на астатніх алтарах катэдры разьба больш-менш падобная. У той час як на гэтым алтары яна інакшая. Гэтыя рэзьбіны аказаліся закінутымі за алтар. Калісьці яны адпадалі ад старасці і іх закідвалі, тады хтосьці мудра паскладаў яе за алтар, кажа кс. Ян.

– *Зараз, пачынаючы рэстаўрацыю, мы знайшлі шмат той разьбы, якая будзе аднаўлена і зноў прымацаваная да алтара. Гэтая разьба своеасаблівая мастацкая знаходка, бо разьба, якая вісела на алтары, была прымацаваная кімсьці з іншых алтароў, а мы знайшлі менавіта арыгінальную. Такім чынам, мы прыдамо алтару тую форму, выгляд, які ён меў раней.*

Аднак каларыстыка алтара св. Міхаіла Арханёла будзе зменена, распавядае кс. Ян Кучынскі:

- *Калі мы зрабілі рэстаўрацыю галоўнага алтара, у вочы моцна пачаў кідацца бакавы. Галоўны алтар мае колер шараватага мармуру, алтар Маці Божай Кангрэгацкай – больш блакітна-зялёны, белы мармур, а алтар св. Міхаіла Арханёла – пад шэразялёны мармур. Такім чынам ён моцна вылучаўся з унутранага ўбранства храма. Таму мы вырашылі распачаць яго рэстаўрацыю. І не памыліліся. Бо калі пачалі ставіць рыштаванні, убачылі, што наверсе ўсё дрэва проста спарахлела. У нейкі момант ён мог і зваліцца, а гэтага знізу не было бачна. Зараз мы працуем над тым, каб умацаваць алтар, захаваць ягоны пачатковы выгляд і надаць яму новую каларыстыку, падобную да алтара Маці Божай Кангрэгацкай. Гэта робіцца з мэтай, каб у касцёле была адна колеравая гама.*

Праўдападобна, што гэты алтар быў пастаўлены ў гэтым месцы на хуткую руку – у яго ззаду не было ніякай канструкцыі. Ён проста стаяў на дошках. Таму зараз робіцца канструкцыя, каб яго ўмацаваць.

– *Давядзецца замяніць там некаторыя часткі, бо яны ўжо непрыдатныя, спарахлелыя,* - працягвае кс. Ян. - *А тыя часткі, якія магчыма захаваць, мы, канешне, пакінем, умацоўваючы спецыяльнымі хімічнымі сродкамі. Другая частка рэстаўрацыйных прац – каларыстыка. Алтар набудзе выгляд мармуровага. Сам абраз св. Міхаіла Арханёла знаходзіцца ў вельмі добрым стане, але мы таксама яго будзем рэстаўраваць.*

Навуковым кіраўніком рэстаўрацыйных прац з'яўляецца гродзенскі мастак і рэстаўратар Уладзімір Кіслы, ён таксама робіць рэстаўрацыю абраза. Таксама працуюць рэстаўратары з Мінска – Уладзімір Нікіцін, які адказны за рэстаўрацыйныя працы алтара. Раней планавалася скончыць рэстаўрацыю алтара да свят Божага Нараджэння, аднак убачыўшы стан алтара, рэстаўратары зразумелі, што працы зацягнуцца даўжэй.

Да св. Міхаіла Арханёла моляцца ў розных інтэнцыях, але ў першую чаргу – ад абароны ад злога духа, ад яго спакусаў. Аб фізічным здароўі моляцца да Маці Божай Кангрэгацкай, а да св. Міхаіла моляцца аб здароўі духоўным.

*Паводле grodnensis.by*



Баранавічы

# Пасвячэнні на Баранавіцкай зямлі

**У Баранавічах 28 кастрычніка адбыліся святарскія і дыяканскія пасвячэнні. Іх удзяліў біскуп Пінскі Антоні Дзям'янка.**

**кс. Юлія Міцкевіч**, *тэкст;*
**Раман Суша**, *фота*

Урачыстасць пасвячэння пачалася працэсіяй па святыні. На пачатку Імшы дзеці, моладзь і старэйшыя прывіталі біскупа, які, між іншым, узгадаў, што, нягледзячы на малады ўзрост парафіі, яна мае багатую гісторыю. У гаміліі іерарх, звяртаючыся да Паўла Ярашэвіча і дыякана Аляксандра Канановіча – кандыдатаў у дыяканы і святары, – заклікаў іх берагчы свае сэрцы ад падвоенасці і ніколі не страціць скарб любові і надзеі.

Пасля таго, як кандыдаты ўклалі свае далоні ў далоні біскупа, а іерарх усклаў рукі на іх галовы, яны прынялі паставу пакоры і знак адданасці Богу – ляглі крыжам на падлогу. Касцёл у Беларусі і ў свеце ўзбагаціўся новымі маладымі дыяканам і святаром.

Падчас гэтай радаснай падзеі касцёл быў напоўнены цеплынёю добрых і шчырых слоў віншавання. Усмешкі не пакідалі прысутных і, відавочна, надоўга застануцца ў памяці кожнага.

*Паводле catholic.by*





## паслядоўнік Хрыста

**(Памяці кс. Ежы Папялушкі)**

*Сцяжынак і дарог істужкі,*
*Краса лугоў і хлебных ніў...*
*Сваю старонку Папялушка*
*Усё жыццё богатварыў.*

*Падчас Імшы за край радзімы,*
*Бог сведка, Ежы нездарма*
*Сказаў, людзьмі такі любімы:*
*"Свабоды слова ў нас няма!"*

*Ён на рэжым камуністычны*
*Палякам вочы адкрываў,*
*Сабою стройны, сімпатычны,*
*Народжаны для добрых спраў.*

*Яму, заступніку Касцёла,*
*І волат пазайздросціць мог:*
*Хоць быў ён, як вядома, кволы,*
*Ды не зламаў яго астрог.*

*І, як ніхто, сумленнем чысты,*
*Меў смеласць праўду гаварыць.*
*І парашылі камуністы*
*Аратара са свету зжыць.*

*Яго забілі д'ябла служкі,*
*Яны выконвалі заказ.*
*У Вісле цела Папялушкі,*
*І бег спыніў ягоны час.*

*Прыціхлі вуліцы і плошчы,*
*Прыйшла бяда з найгоршых бед.*
*Аплаквала яго ўся Польшча*
*І ўвесь з ёй каталіцкі свет.*

*У маладым узросце Ежы*
*Загінуў, поўны светлых мрой.*
*Ужо ён Вечнасці належыць,*
*Славуты сын зямлі сваёй.*

*Спяваюць гімн нябёсам птушкі,*
*Зіма змяняецца вясной...*
*Святыя справы Папялушкі*
*Жывуць у памяці людской.*

***Аркадзь Нафрановіч***

* * *

*Дай мне памяці, Божа! Дай мне*
*Усё ўбачыць, пачуць – разабрацца,*
*Зразумець, дзе ёсць ява, дзе зданне.*
*Адчуваць, хто таварыш, хто здрадца.*

*Дай мне мудрасці, Божа! Дай мне*
*Ўмець прабачыць і добрых, і дрэнных;*
*Не хацець і не жыць на падмане,*
*Мець свой голас між гэтых і гэных.*

*Дай мне веры, Госпадзе! Дай мне.*
*Каб душа тваёй ласкі стварэнне,*
*Жыць магла ў светлым велічным храме,*
*А не ў цёмным, сырым сутарэнні.*

*Каб на белае аркушаў поле*
*Чорных літар хапала насення,*
*Перажыць час нядобрае волі– Дай цяр-*
*пення мне, Божа, цярпення!*

*Павел Хаміцэвіч*

# Касцельны суд

**Многія чытачы, убачыўшы словы "Касцельны суд", могуць здзівіцца. Як жа так? Касцёл – гэта супольнасць святых і тых, хто імкнецца да святасці. Шмат разоў чуем у святынях пра Божую ласку, прабачэнне і міласэрнасць. Навошта ж супольнасці дзяцей Божых патрэбная такая суровая інстанцыя, як суд?**

**кс. Віктар Місевіч**, *афіцыял*



Ёсць вядомае старажытнае выслоўе: Ecclesia vivit lege Romana (Касцёл жыве правам Рымскім). Яно азначае, што супольнасць ахрышчаных людзей патрабуе пэўнага парадку. А пра парадак і справядлівасць даўно і вельмі добра сказана менавіта ў Рымскім праве. Зрэшты, ні для кога не таямніца, што менавіта Рымскае права лягло ў аснову юрыспрудэнцыі еўрапейскіх і не толькі краін.

Касцельныя суды займаюцца пераважна разглядам сужэнскіх спраў. Адразу варта нагадаць, што ніколі Касцёл не прызнаваў разводаў. Не прызнае ён іх і сёння. Касцёл не разводзіць сужэнцаў. Ён толькі дае магчымасць у некаторых выпадках сцвердзіць несапраўднасць сужэнства, якое ўжо ад пачатку было несапраўдным.

Пагэтаму і патрэбная такая ўстанова, як Касцельны суд. Таму што толькі ў ім спецыяльна падрыхтаваныя людзі, кіруючыся нормамі Кананічнага права, маюць усе сродкі, каб адшукаць праўду. А канкрэтней: ці было, напрыклад, сужэнства Міхала Іваноўскага і Святланы Іваноўскай (Кавалёнак)* заключана пасапраўднаму? Калі не, то па якой прычыне?

Асноўная адказнасць у судзе ляжыць на Афіцыяле, які з'яўляецца намеснікам біскупа (вікарыем) па судовых справах. Дапамагаюць яму суддзі, чыя задача пасля вывучэння справы вынесці вердыкт. У сужэнскіх працэсах прымае ўдзел няцотная колькасць суддзяў. Зазвычай гэта тры чалавекі.

Працэс аб сцвярджэнні несапраўднасці сужэнства не можа адбыцца без удзелу Абаронцы сужэнскага саюзу і натарыуса. Задачай Абаронцы з'яўляецца знайсці і прадставіць усе доказы, якія прамаўляюць за сапраўднасць сужэнства. Функцыя натарыуса – прысутнічаць падчас праслухоўванняў і іншых пасяджэнняў і рыхтаваць дакументы, завяраючы іх сваім подпісам.

Працэс у першай інстанцыі суда доўжыцца каля аднаго года. Калі прысуд сцвярджае, што сужэнства было заключана не належным чынам, несапраўднае, то справа аўтаматычна накіроўваецца ў суд другой інстанцыі. Для Віцебскай дыяцэзіі судом другой інстанцыі з'яўляецца Міждыяцэзіяльны суд у Мінску.

Тэма сужэнскіх працэсаў даволі шырокая, каб можна было высвятліць розныя складаныя пытанні ў адным артыкуле. Таму ўсе зацікаўленыя могуць звяртацца ў суд па адрасе: **вул. Кірава 6, 211730 Бягомль, Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.**, або тэлефанаваць на нумар: **8-02157-3-30-44**

* імёны ў артыкуле выдуманыя

# Курыя паведамляе

Рашэннем біскупа Віцебскага Уладзіслава Бліна адбылася рэарганізацыя складу Біскупскага суда Віцебскай дыяцэзіі.

**Функцыі ў судзе выконваюць:**

Афіцыял – **кс. Віктар Місевіч**
Абаронца сужэнскага саюзу і Прамотар справядлівасці – **кс. Ігнат Санюта**
Суддзя – **кс. Мечыслаў Янчышын**
Суддзя – кс. **Віталь Галец**
Суддзя – **кс. Валерый Орсік**
Суддзя – **кс. Алег Півавар**
Суддзя – **кс. Павел Самсонаў**
Натарыус – **с. Ганна Дзятлік ASC**
Эксперт па псіхалогіі – **спадар Дзмітрый Атрашкевіч.**

Сядзіба суда знаходзіцца пры парафіі Хрыста Валадара Сусвету ў Бягомлі.

**Адрас:** вул. Кірава 6, 211730 Бягомль, Докшыцкі р-н Віцебскай вобл.
**Тэл.:** 8-02157-3-30-44

# На каўчэгу выратавання

**“Concordia Chor” пад кіраўніцтвам Галіны Казіміроўскай, жонкі вядомага артыста Змітра Вайцюшкевіча, выступае ў касцёлах Беларусі і Літвы. Хор прэзентаваў сваё мастацтва ў Тэрэмісках у Польшчы ў 2010 годзе, браў удзел у музычных фестывалях “Ліра”, “Мінская музычная вясна”, калядным фэсце “Ave Maria” і іншых музычных святах. “Concordia Chor” у красавіку сёлета выпусціў першы дыск, на якім сабраныя найлепшыя спевы за 5 гадоў. А песня “Галачкі” – далікатная візітоўка хору.**

**Эла Дзвінская**, *тэкст;* **Кацяя Малама**, *фота*




## Спеў і камп'ютары

Стварэнне калектыву і кіраванне хорам – вялікая духоўная праца. Тым больш, калі калектыў складаецца з аматараў музыкі, працаўнікоў праграмісцкай кампаніі IBA. Але не праз дысцыпліну і прымус, а праз захапленне кіруе хорам цудоўная жанчына. Менавіта любоў, пяшчота і пачуццё ўнутранай свабоды яе напаўняюць.

Галіна Казіміроўская скончыла Беларускую акадэмію музыкі па спецыяльнасці “Харавое дырыжыраванне”, працавала ў харавой капэле імя Рыгора Шырмы. На пачатку XXI стагоддзя яна з сябрамі заснавала самастойны калектыў “Concordia Chor” і стварыла канцэртнае агенства «BelArtSound” з мэтай папулярызацыі харавога мастацтва.

“Гэта праца любімая, таму ад яе не адчуваеш стамлення, – падзялілася думкамі сп. Галіна Казіміроўская. З выканаўцаў кожны калісьці спяваў у хоры і займаўся музыкай. Супрацоўнікі праграмісцкай кампаніі ўвесь дзень праводзяць седзячы за камп'ютарам, а ўвечары яны прыходзяць сустрэцца з сябрамі, заспяваць разам, як у клуб, які прыцягвае людзей. Любоў да спеваў – на ўсё жыццё. Мы імкнёмся выступаць у розных касцёлах. Выступаем 4-5 разоў на год у Нясвіжы, Лагойску, Браславе”.




## Міжнароднае сяброўства

З выканаўцамі з музычнага калектыву “Concordia Chor” мы ўпершыню сустрэліся на канцэрце ў Мінскай філармоніі. Два сяброўскія хары – беларускі “Concordia Chor” і шведскі “Boo Cantabile” – выступілі ў Малой зале імя Шырмы Беларускай дзяржаўнай філармоніі. Іх звязвае сяброўства і супрацоўніцтва. Сумесны канцэрт быў арганізаваны ў межах III Міжнароднага фестывалю аматарскіх хароў “Гукі лета”. Сяброўскія адносіны яны падтрымліваюць і да гэтага часу.

## Новы досвед

У другі раз мы сустрэліся з сябрамі з “Concordia Chor” на грандыёзным фэсце ў Браславе, які праходзіў у канцы жніўня ў гонар Маці Божай Валадаркі Азёраў. Яшчэ звечара мясцовыя жыхары і госці свята чакалі сустрэчы з мінскімі выканаўцамі, выступленне якіх планавалася пасля вячэрняга набажэнства. Спадарыня Галіна кіравала спевамі вельмі энергічна, укладваючы ў справу ўсю душу.

На другі дзень хору было даручана спяваць на своеасаблівай пляцоўцы – на вялізным каўчэгу, што пабудаваны побач з касцёлам. Спевакі сваім майстэрствам праслаўлялі Найсвяцейшую Панну Марыю.

Спадарыня Галіна кажа: “На каўчэгу мы сябе адчувалі як на сапраўдным караблі падчас шторму, бо было даволі халодна. Мы – свецкі хор і ўпершыню прымалі ўдзел у такой вялікай святочнай Імшы. Для нас гэта быў важны досвед”.

---

Шуміліна

# Разам з Марыяй

**У Шуміліне ў санктуарыі Маці Божай Фацімскай 13 кастрычніка адбылася ўрачыстасць, на якую сабраліся мясцовыя парафіяне, вернікі з Мінска, Брэста і іншых парафій, а таксама святары і законныя сёстры з Віцебскай дыяцэзіі на чале з біскупам Уладзіславам Блінам.**

**Анастасія Даўгілава**, *тэкст і фота*



Урачыстасць пачалася з адарацыі, якую праводзіў а. Раман Шульц – дамініканец. Святую Імшу цэлебраваў біскуп Пінскай дыяцэзіі Антоні Дзям’янка. З прывітальнымі словамі да гасцей звярнуўся пробашч парафіі а. Анджэй Юхневіч OMI. Казанне прамовіў а. Зміцер Занямонскі OMI. Ён звярнуў увагу прысутных на тое, што Марыя з’яўляецца нашай Маці, якая клапоціцца пра жыццё кожнага з нас. Яна найбольш дбае пра нашае духоўнае жыццё і чакае, калі мы папросім у яе дапамогі. Марыя вучыць нас давяраць Богу, як яна давярала Яму ўсё сваё жыццё.

Пасля Імшы адбылася ружанцовая працэсія з фігурай Маці Божай, падчас якой разважалі над радаснымі таямніцамі. Працэсія праходзіла паўз помнік Яну Паўлу II, помнік бл. Цэліны Бажэнцкай (заснавальніцы супольнасці сясцёр-змёртвыхпаўстанак), каля выявы Маці Божай. На заканчэнне біскуп Антоні Дзям’янка ўдзяліў вернікам благаслаўленне.

А пасля ўсіх чакаў абед, які прыгатавалі гасцінныя парафіяне. Свята атрымалася запамінальным і прыгожым!

# Прастора надзеі



**Лістапад – гэта месяц, які асабліва спрыяе роздуму пра апошнія справы. Першага лістапада мы адзначаем урачыстасць Усіх святых – тых, хто ўжо атрымаў перамогу ў сваім жыцці, цешыцца з нябеснай радасці і заступаецца за нас. Але актава гэтай урачыстасці – таксама і час, калі мы асаблівым чынам молімся за душы ў чысцы. Таму давайце паразважаем пра тое, што кажа пра чысцец навука Касцёла.**

**а. Кшыштаф Коц'ян ОР**

## Значэнне смерці

Смерць – гэта той момант у чалавечым жыцці, калі вырашаецца яго апошні лёс. Тады чалавек робіць канчатковы выбар паміж збаўленнем і пагібеллю, выбар адносна таго, хоча ён заўжды жыць з Богам ці цалкам выракаецца любові Божай. Той выбар, які становіцца вынікам усяго жыцця, канчаткова здзяйсняецца ў момант смерці. Таму смерць мае такое вялікае значэнне для нас. Гэта момант, калі адбываецца сапраўдная духоўная барацьба.

Мы адчуваем асаблівую Божую апеку, але і д'ябал тады змагаецца за чалавечую душу. Таму варта маліцца аб добрай смерці для сябе. З гэтай жа прычыны трэба падтрымліваць нашых братоў, якія паміраюць, малітваю і перш за ўсё сакрамантамі. Не спяшацца клікаць святара да таго, хто адыходзіць, – гэта тое самае, што марудзіць з вайсковаю дапамогаю да таго часу, калі скончыцца бойка.

Чалавек, які ў момант смерці выбраў жыццё з Богам, трапляе ў нябёсы, а калі ён яшчэ не гатовы прыняць паўнату ласкі і жыць прысутнасцю Божай, – у чысцец. Таму чысцец – гэта стан збаўленых людзей, якія рыхтуюць сябе да паўнаты шчасця. Тым не менш, такая падрыхтоўка можа быць вельмі балючаю.

## Лекі, а не пакаранне

Гэта крыху падобна да занямелай рукі. Часам мы можам пакласціся такім чынам, што перакрыем цёк крыві ў ёй. Калі ж заўважым, што рука занямела, адчуванне такое, што ёю няможна паварушыць, але болю няма. Балець пачынае тады, калі аднаўляецца жыццядайны крывазварот. Адчуванне вельмі непрыемнае, але гэта вынік ажыўлення. Чысцовыя пакуты – тое самае. Яны больш падобныя да балючай лекавальнай працэдуры, чым да пакутлівага пакарання.

Бог не вартаўнік у вязніцы, а клапатлівы лекар. Аднак гэта не змяняе таго факту, што чысцец – стан пакуты. Кожны ўчынены грэх зраніў нашыя душы, і ўсе гэтыя раны павінны быць нанова адкрытыя і загоеныя. Кожны памылковы крок выклікаў скрыўленне ў нашым росце, і цяпер усё гэта павінна быць выпрастана. Балючая працэдура, але яна – адзіны спосаб аздаравіцца.

> **Бог не вартаўнік у вязніцы, а клапатлівы лекар.**

Працэс аздараўлення не павінен абавязкова адбыцца пасля смерці. Найлепш прайсці лячэнне ў жыцці. Але той, хто не здолеў гэтага зрабіць, павінен прайсці праз чысцец. У гэтым кантэксце становіцца зразумелым, чаму раней людзі з такою ахвотаю займаліся самаўтаймаваннем і добраахвотна бралі на сябе пакуты за грахі. Яны хацелі пры жыцці выправіць усе свае памылкі, на зямлі аздаравіць сваю душу, каб пасля адразу ўвайсці ў паўнату шчасця.

## Малітва за памерлых

І тут паўстае пытанне датычна нашых малітваў за памерлых. Якім чынам мы можам дапамагчы ім? Пан Езус наказаў нам насціць цяжары адно аднаго. Мы, людзі, моцна звязаныя між сабою. У нас штодня ёсць магчымасць дапамагаць і падтрымліваць адно аднаго. Мы часта вырашаем чужыя праблемы, бяром на сябе чужыя абавязкі, абараняем кагосьці, аказваем сваю любоў. Гэта наш штодзённы досвед. У гэтых разважаннях аб чысцы нам варта памятаць пра дзве рэчы.

Па-першае, у духоўнай прасторы мы можам знаходзіцца нашмат бліжэй да іншага чалавека, чым на фізічнай адлегласці. Па-другое, смерць не да канца разрывае нашую сувязь. У Пану Езусу мы з'яднаныя з нашымі памерлымі. Смерць – гэта мяжа, якую можа перайсці любоў. Таму як мы можам дапамагчы іншаму чалавеку пры жыцці, такім жа чынам можам палегчыць і лёс нашых памерлых. Як? Сваёю малітваю, міласцінаю, постам. Яшчэ мы можам дзеля пэўнага памерлага ад яго імя зрабіць нешта добрае. Можна дзеля яго ўнесці гармонію ў сваё жыццё, паспрабаваць навярнуцца, пазбыцца нейкага граху ці залежнасці. Можна імкнуцца злагодзіць якуюсьці старую сямейную звадку... Мы бяром на сябе нейкае духоўнае змаганне, каб разам з нашымі памерлымі несці цяжар чысца.

## За каго не трэба маліцца?

Але калі мы можам дапамагчы толькі чысцовым душам, ці ёсць такія людзі, за якіх мы не павінны маліцца? Так, але гэта датычыць не грэшнікаў, а святых. Святыя і бласлаўлёныя – гэта тыя людзі, пра якіх Касцёл ведае, што яны знаходзяцца ў нябёсах. Таму ім нашая дапамога не патрэбная, яны самі могуць дапамагчы нам. І мы, напрыклад, не молімся за душу бласлаўлёнага Яна Паўла II, а просім яго заступніцтва перад Богам. Што датычыць усіх іншых памерлых, не беатыфікаваных або не кананізаваных, мы можам і павінны маліцца за іх душы. Калі ж нехта з іх ужо атрымаў паўнату збаўлення і не патрабуе дапамогі, нават і тады нашая малітва не пойдзе на марнасць: гэтыя намаганні палегчаць нейкі іншы лёс.

Таму мы ніколі не павінны пакідаць малітвы дзеля падазрэння, што нейкая душа ўжо загінула і таму сэнсу маліцца няма. Ёсць тысячы людзей, якіх Касцёл абвясціў збаўленымі, але няма ніводнага чалавека, пра каго б можна было сказаць, што ён дакладна загінуў! Так, мы ведаем, што смерць у грахоўным стане вядзе да пагібелі, але нам невядома, што адбываецца ў апошнія хвіліны чалавечага жыцця. Мы не ведаем, магчыма, нават Юда, да таго, як пятля канчаткова зацягнулася на ягонай шыі, маліў аб міласэрнасці Божай... Невядома, як выглядала сустрэча найбольшага грэшніка з Богам... І гэтая прастора нашага няведання з'яўляецца прасторою надзеі. Надзеі, якую перапаўнае любоў, мацнейшая за смерць.

# Хмельнае прызнанне

**Што такое сапраўднае каханне? Гэта не што іншае, як павага і пашана да чалавека, гэта вернасць і адданасць блізкай асобе. Калі ты прымаеш яго боль або радасць – гэта каханне. Пра яго можна казаць бясконца…**

**Ірына Грэйць**

Але ёсць некаторыя рэчы, якія не дазваляюць ўсвядоміць чалавеку вартасць сапраўднага кахання, сапраўднай любові. Адной такой важнай перашкодай у чалавечым жыцці з'яўляецца алкаголь. Часта назіраем такі вынік яго дзейнасці, як прызнанне ў каханні. Пад уплывам спіртных напояў чалавек можа казаць што заўгодна. У стане ап'янення не сам чалавек кажа аб пачуццях, гэта алкаголь вырашае ўсе пытанні. П'янага цягне на "подзвігі", таму ён і адважваецца сказаць пра свае пачуцці.

Разгледзем некаторыя варыянты прызнання. Чалавек можа выпіць для "смеласці". Ён збіраецца з духам і прызнаецца ў каханні. У гэтым выпадку задаём пытанне: дзе ж тут месца для шчырай чалавечай павагі? Яе няма, таму і пра сапраўдныя пачуцці ўжо не можам гаварыць. Для "смеласці" зусім не трэба піць. Лепш звярнуцца да свайго міласэрнага Айца, папрасіць у яго дапамогі. І ў хуткім часе знойдзецца відавочны адказ: якім чынам усё ж такі падысці да той асобы, якая падабаецца.



Ёсць іншыя прызнанні, якія прыводзяць да сумных вынікаў. Той чалавек, каторому прызнаюцца ў каханні, можа паверыць другой палове. Якія ж наступствы чакаюць такіх "закаханых"? Вельмі папулярнымі, напрыклад, становяцца разводы. А вось тыя новыя "хмельныя шлюбы" распадаюцца, скажам, ужо пасля першага месяца сумеснага жыцця. Яны не змаглі прайсці агульных выпрабаванняў, складаных сітуацый. Чаму? А таму, што такія людзі страцілі сувязь з Госпадам. Ім неабходна знайсці месца для Хрыста, каб з Яго дапамогай разабрацца ва ўсіх праблемах, што іх напаткалі.

Калі мы прызнаёмся ў каханні ў нецвярозым стане, варта ведаць, што такім спосабам мы крыўдзім і прыніжаем чалавека. Яму патрэбна казаць аб пачуццях не на "п'яную галаву". Так ён заўважыць сваю вартасць і важнасць для іншай асобы. А як сябе будзе адчуваць дзяўчына, ведаючы, што ў цвярозым стане хлопец нават і не зверне на яе ўвагу?

Бачачы розныя сітуацыі, звязаныя з алкаголем і прызнаннямі, можна зрабіць адну важную выснову. Чалавек павінен аналізаваць свае пачуцці толькі ў цвярозым стане.

**Рэдакцыя дзякуе!**

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі. Жадаем усім Вам шмат Божай ласкі і Божага блаславення!

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Юзэфа Афанасенка** (г. Полацк), **Людміла Каросцік** (ст. Параф'янава, Докшыцкі р-н), **Леанід Грыбач** (г. Гомель), **В.В. Пашкевіч** (в. Бігосава, Верхнядзвінскі р-н), **Вольга Парневіч** (в. Крулеўшчына, Докшыцкі р-н), **Соф'я Машара** (г. Мёры), **Марыя Махала** (в. Ліпнішкі, Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.), **Адэля Яковіч** (Іўеўскі р-н, Гродзенская вобл.).

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх аўтараў і ахвярадаўцаў выдання кожную першую суботу месяца адпраўляецца св. Імша.

Дарагія сябры, дапамажыце нам несці Добрую Вестку! Раскажыце сваім родным і знаёмым пра "Каталіцкі Веснік". Заахвоцьце іх падпісацца. Ужо распачалася падпісная кампанія на першае паўгоддзе 2013 года! Аформіць падпіску можна ў любым аддзяленні Белпошты. Наш індэкс: 63783.

Чакаем вашых артыкулаў, фотаздымкаў, ахвяраванняў. Разам мы зможам расказаць людзям пра Хрыста і яго Касцёл.

**Няхай Вас благаславіць Бог, а святыя апосталы заступаюцца за Вас у кожную хвіліну жыцця!**

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

# ДЗЕ ЯНО – ШЧАСЦЕ?

**Ці часта Вы задумваліся пра сэнс і мэту жыцця? Ці здаралася ў Вашым жыцці адчуваць недахоп чагосьці? Ніколі не здавалася, што не хапае нейкай паўнаты?**

**Часта людзі прагнуць "чагосьці", "штосьці" шукаюць і аніяк не могуць знайсці, не могуць задаволіць гэтага таямнічага прагнення. Адчуваюць пры гэтым своеасаблівы неспакой.**

■ **Źmicier Litvin**



## Чаго шукаем?

А так, сапраўды, чаго прагне і шукае ў сваім жыцці кожны чалавек, асабліва ў маладосці? Ці не шукае чагосьці ўзнёслага, шляхетнага? Не нейкай нетрывалай радасці, прыемнасці ці часовага задавальнення, але нечага ўзвышанага – Сапраўднага Шчасця. Людзі адчуваюць пры гэтым таямнічы недахоп, які нялёгка апісаць ці патлумачыць канкрэтнымі словамі. Такому адчуванню непаўнаты можа спадарожнічаць пачуццё своеасаблівай тугі ў душы.

Туга па Найпаўнейшаму Шчасцю, шуканне Найвышэйшай Мэты – туга чалавека па Богу, шуканне і прагненне Бога ўсёй сваёй істотай. Бо менавіта Бог ёсць Мэтай чалавечага жыцця, Ён з'яўляецца крыніцай Сапраўднага Шчасця.

Ніхто ніяздольны заспакоіць таямнічага прагнення ўсёй нашай чалавечай істоты, апрача Самога Бога. Той, Які называе сябе "Дарогай, Праўдай і Жыццём", – ёсць Паўнатою Шчасця і Любові. Бог ёсць Любоў, і пра гэта кожнаму варта памятаць.

## Гісторыя пустэльніка

Прыходзіць на думку гісторыя, якую распавёў святар Анры Кафаэль у адным са сваіх лістоў пра малітву.

Гэты святар расказвае пра тое, што на адной гары жыў манах-пустэльнік з рэпутацыяй вялікага святога. Да яго прыходзілі розныя людзі. Сярод іх былі і тыя, што хацелі стаць яго вучнямі. Але за ўсё жыццё пустэльнік прыняў толькі аднаго хлопца, і той ужо пасля смерці настаўніка распавёў "чаму".

Хлопец прыйшоў першы раз да манаха, калі меў 18 гадоў, і тады папрасіўся застацца з ім, каб навучыцца маліцца. Пустэльнік спытаў у яго: "Чаму ты хочаш навучыцца маліцца?" Той адказаў: "Бо гэта найвышэйшая навука!" Старац не без смутку сказаў, што не можа яго прыняць.

Праз некалькі гадоў хлопец зноў пайшоў і папрасіўся, але ў гэты раз на пытанне "чаму?.." адказаў, што хоча стаць святым. Але манах зноў адмовіў яму.

Жаданне маліцца з кожным днём усё больш адольвала хлопца. У Калядную Ноч ён зноў пайшоў да старца і, не чакаючы пытання, сказаў: "Я хачу навучыцца маліцца, бо хачу знайсці Бога!"

І вось тады старац абняў хлопца...

## Што абярэм?

Кожны мае свой шлях да Бога. Бог жа заклікае ўсіх людзей шукаць Яго. Добрыя адносіны са Стваральнікам заўсёды прыносяць нам шчасце.

Айцец Анры ў іншым месцы гаворыць таксама пра тое, што з Богам усё не так, як з часовымі зямнымі дабротамі. Але чым больш мы пазнаём Бога, тым больш Яго прагнем і больш актыўна шукаем.

Зямнымі дабротамі, паколькі яны абмежаваныя, можна валодаць цалкам. Але Бог, Які ёсць Бясконцасцю, атачае нас з усіх бакоў. Чым больш мы Яго пазнаём, любім, валодаем Ім, тым лепей заўважаем, што можна пазнаць, любіць Яго і валодаць Ім яшчэ большаю мерою. І тады нашае прагненне пачынае струменіцца з новай сілай.

Бог ёсць Любоў, і ўсіх нас Ён заклікае да Любові, вучыць любіць. Усе духоўныя хрысціянскія практыкі маюць быць прасякнутыя духам Любові. Бо пост без Любові, як і малітва без Любові, не маюць сэнсу. Нават вера без Любові траціць сваю сутнасць.

Ці ж прынясе чалавеку Шчасце жыццё без Любові, жыццё без Бога?..

# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**18 лістапада 2012 г. Мк 13, 24 – 32**

Езус Хрыстус прыйдзе ў хвале, маючы вялікую моц. Ён, Які будзе ісці па аблоках, з'яўляецца для нас наталеннем і суцяшэннем. Змучаныя штодзённым змаганнем з сіламі зла, чуем слова надзеі. У жыцці шмат цяжкасцяў і ўціску, але Ён – пераможца, Ён мае моц. Не трэба баяцца смерці і канца свету. Трэба клапаціцца, каб быць з Ім, з Езусам, заўсёды. Нельга адчуваць прыбітасць і ўпадаць у роспач. Знакі гавораць, што Божае наталенне прыйдзе і што толькі Яго навука вечная. Словы Яго не прамінуць, а валадарствы і магутнасць зямныя знікаюць без следу.

*– Ці клапачуся пра еднасць з Езусам?*

*– Ці выконваю Яго волю?*

*– Ці стараюся жыць без цяжкіх грахоў?*

*– Ці спавядаюся і ці вяртаюся да Езуса адразу пасля падзення?*

*– Ці памятаю ў штодзённых цяжкасцях пра Яго волю?*

*– Ці ўзмацняюся праз прыняцце Камуніі, якая ёсць Хлебам моцных?*

*– Ці шукаю Яго моцы на малітве і адарацыі?*

*– Ці знаходжу ў Божым слове мудрасць?*

*– Ці дапамагаю маім братам у дарозе будавання Божага Валадарства?*

**25 лістапада 2012 г. Ян 18, 33 – 37**

Езус засведчыў, што з'яўляецца Каралём і тлумачыць сутнасць сваёй каралеўскай годнасці. Яго Валадарства не з гэтага свету. Яго Валадарства – Валадарства праўды, дзе падданыя слухаюць голас Валадара і жывуць паводле праўды Яго навукі. Каштоўнасці гэтага Валадарства не падобныя да каштоўнасцяў гэтага свету. Божае Валадарства перарастае ўсялякае чалавечае разуменне пра сэнс жыцця.

*– Ці будую Божае Валадарства ў сваім сэрцы?*

*– Ці з'яўляецца навука Езуса праўдай і мудрасцю майго жыцця?*

*– Ці памятаю, жывучы ў якім-небудзь зямным валадарстве, што з'яўляюся грамадзянінам Божага Валадарства?*

*– Ці разумею, што свет часта жыве паводле правілаў, якія не сыходзяцца з правіламі Божага Валадарства?*

*– Ці не адкідваю часам правілаў Божага Валадарства, каб ісці за праўдамі гэтага свету?*

*– Ці перамяняе маё асяроддзе мудрасць і святло Божага Валадарства, прысутнага ў маім сэрцы?*

*– Ці абвяшчаю сваёй любоўю, дабром і словам хвалу майму Валадару?*

*– Ці хочуць людзі, гледзячы на Божае Валадарства ўва мне, таксама зрабіць Езуса сваім Панам і Валадаром?*

**2 снежня 2012 г. Лк 21, 25 – 28, 34 – 36**

Жыццё паводле права Божага Валадарства патрабуе ад нас вернасці. Езус не пакіне нас у турботах. Ён прыйдзе і прынясе перамогу. Трэба толькі быць у гэты час у еднасці з Ім. Кожны дзень мы павінны быць гатовыя да сустрэчы з Ім. Трэба скінуць з сябе цяжар залежнасці і вызваліцца ад празмернага клопату пра штодзённыя справы. Трэба навучыцца чуйнасці, якая ёсць прыкметай гатоўнасці любіць. Трэба навучыцца жыць малітвай.

*– Ці мог бы сёння памерці?*

*– У якім стане знаходзіцца мая душа?*

*– Ці гатовы на сустрэчу з Панам?*

*– Якія грахі і прывязанасці перашкаджаюць мне ісці за Езусам?*

*– Што раблю, каб адкінуць іх?*

*– Ці жыву паводле Божай волі?*

*– Ці не клапачуся празмерна пра штодзённыя справы?*

*– Ці адчуваю ў сабе жаданне выконваць Божую волю?*

*– У чым праяўляецца мая любоў да Бога і бліжняга?*

*– Ці малюся?*

*– Як выглядае мая малітва?*

*– Ці трываю ў паслухмянасці Пану?*

*– Што зрабіць, каб маё жыццё было напоўнена малітвай?*

**9 снежня 2012 г. Лк 3, 1 – 6**

Ян рыхтуе жыдоў да сустрэчы з Месіяй. Ён заклікае адвярнуцца ад грэху і наблізіцца да Пана. Вучыць, што Месія прынясе вызваленне. Адвэнт – гэта час на аднаўленне любові, знішчанай праз грэх. Гэта таксама час адкрыцця на Божыя справы ў нашым жыцці. Гэта Бог нас перамяняе, вучыць любіць і робіць лепшымі.

*– Ці ведаю свае грахі?*

*– Ці расказваю пра іх Езусу на малітве і ў спавядальні?*

*– Ці шукаю магчымасці пазбавіцца ад гэтых грахоў?*

*– Ці ведаю і бачу, як мае грахі забіваюць любоў?*

*– Ці карыстаюся духоўным настаўніцтвам?*

*– Ці адкрываю сваё сэрца на дзеянне Божай ласкі?*

*– Ці прыходжу да Езуса са справамі, якія робяць мяне рабом і якіх без Яго не вырашыць?*

*– А можа, спрабую справіцца сам?*

*– Можа, поўны пыхі, не давяраю Езусу?*

*– Можа, не іду да Яго з усімі сваімі справамі жыцця, розуму, сэрца, пачуццяў, цела?*

Рубрыку вядзе
**кс. Павел Кнурэк**

## Віншуем!

*13 лістапада ў нашага ксяндза пробашча Чэслава Куцмежа Дзень нараджэння. Ён працуе ў парафіі св. Міхала Арханёла, што знаходзіцца ў Варапаеве, не так даўно. Але кожная сустрэча з кс. Чэславам – гэта свята веры і любові, дабрыні і міласэрнасці, павагі і ўвагі! Яго пастырская навука ўражвае пранікнёнасцю, мудрасцю слова, пасля чаго хочацца не толькі ісці, а бегчы ў касцёл зноў і зноў. Ён узрушыў сэрцы вернікаў, якія палюбілі яго і яго навуку. Мы сталі больш моцнымі і багатымі духоўна.*

*У Дзень нараджэння нашага Пробашча разам з усёй парафіяй мы молімся за яго: "О Езу, Божы Пастыр, які паклікаў апосталаў, каб зрабіць іх лаўцамі душаў. Ты, Які паклікаў да сябе кс. Чэслава, учыні яго Сваім руплівым паслядоўнікам і слугою. Адкрый перад ім гарызонты, каб убачыў увесь свет, які прагне святла, праўды і любові, каб стаў соллю зямлі і святлом свету! Марыя, наша нябесная Маці, даручаем нашага Пробашча Тваёй апецы".*

*Удзячныя парафіяне касцёла св. Міхала Арханёла, Варапаева*

## Шаноўны ксёндз Анджэй Бочар!

*З Днём нараджэння і імянінамі віншуем!*
*Любім, цэнім, паважаем і шануем.*
*Светлай радасці і міласці нябёс!*
*Хай анёл ахоўвае ваш лёс.*
*Жадаем Божага благаслаўлення ва ўсіх Вашых справах і пачынаннях. Няхай Вашая душпастырская праца прыносіць багаты плён.*

*Чальцы анімацыйнай групы "Новы вобраз парафіі", аграмястэчка Далёкія (Браслаўскі раён)*

## Віншуем!

*Паважанаму ксяндзу Валерыю Орсіку з нагоды сёмай гадавіны святарства ад усяго сэрца жадаем шмат радасці, цярплівасці, поспехаў у душпастырскай працы і добразычлівых людзей на святарскім шляху.*

*Няхай на Вашым твары зззяе ўсмешка, а сэрца будзе напоўнена супакоем. Няхай Анёл-Ахоўнік заўсёды чувае над Вамі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй мацярынскай апекай.*

*Сям'я Спургяш, г. Бярозаўка, Лідскі раён (Гродзенская вобласць)*

# "Вазьміце шчыт веры!"

**Апошнія выхадныя месяца ў Полацкай парафіі былі вельмі радаснымі. Моладзь з розных куткоў Беларусі прыехала сюды 27-28 кастрычніка на сустрэчу, якая была прысвечана Году веры.**

■ **Ірына Грэйць**, *тэкст і фота*

Праз некалькі хвілін усе, хто прыбыў на гэтае спатканне, пайшлі ў святыню. Там іх чакаў кс. Валерый Марціноўскі. Ён прывітаў прысутную моладзь і назваў тэму сустрэчы: "Вазьміце шчыт веры". І сапраўды, на працягу гэтых дзён госці Полацкай парафіі разважалі на тэму веры.



### Знаёмства

Сястра Святлана Грэйць прапанавала бліжэй пазнаёміцца. Мы даведаліся, што маладыя людзі прыехалі сюды з Браслаўшчыны, з Ахрэмаўцаў, каб больш часу пабыць з Богам. Была моладзь з Мінска, Віцебска, Верхнядзвінска, Шуміліна, Пастаў, Глыбокага, Астраўца. Юнакі і дзяўчаты прыехалі правесці свой час разам з роднымі і любімымі сябрамі, якіх яднаюць вера ў Госпада і супольная малітва.

Цікава, цікава... Чаго было ехаць у той Полацк, калі тут ужо ляжалі гурбы снегу, а, напрыклад, у некаторых мясцовасцях Беларусі было значна цяплей? Маладыя сэрцы радаваліся кожнай хвіліне сустрэчы, таму падумалася, што вера ў Госпада саграваe іх, дае сілы, узмацняе. Хор з Полацка і Наваполацка – так сябе называюць вясёлыя вернікі дзвюх парафій – упрыгожваў спевам святыню.

### Канферэнцыя

Пасля смачнай вячэры, якая праходзіла ў парафіяльным доме, усе пайшлі на канферэнцыю. "Вера – гэта адказ Богу, які аб'явіўся нам у Езусе Хрысце. Гэты адказ – перш за ўсё супольнасці касцёла, у якой, як струмень у рэчцы, знаходзіцца і мой асабісты адказ. Я веру ў тое, з чым Бог прыходзіць да мяне, – кажа кс. Андрэй Кулік. – Веру і паводжу сябе ў адпаведнасці са сваёй верай, вызнаю перамогу Хрыста і ўшаноўваю Яго як Пераможцу". Прысутныя таксама ўважліва слухалі, што пра маладое пакаленне казалі каля 2000 гадоў таму, да нараджэння Хрыста, слухалі цікавыя прыклады з жыцця моладзі ў Касцёле.

Пасля асэнсавання канферэнцыі адбылася адарацыя перад Найсвяцейшым Сакрамантам. Цішыня, малітва... Час на разважанні: "Наколькі сумленнымі рыбакамі мы будзем, настолькі добра падрыхтуемся да таго, каб ісці за Хрыстом. Чым мацнейшыя вузлы нашых сетак, тым мацнейшае нашае слова перад людзьмі і Богам. Вера, якую мы вызнаём, павінна быць прынятая сэрцам. Недастаткова ведаць толькі змест веры, калі сэрца як сапраўдны санктуарый чалавека не будзе адкрыта на Божае слова".

Апоўначы юнакі і дзяўчаты дружна сабралася на гарбату. Пасля яе адбыўся Крыжовы шлях, дзе ўсе разважалі над галоўнымі таямніцамі пакут Госпада.

### Фільм з папкорнам

Ого! Што гэта за "гара"? У гэтай зале праходзіць кінасеанс! Ужо 2-я гадзіна ночы. "Ты толькі любі" – так гучыць назва фільма. А гэтая вялікая "гара" папкорну для таго, каб фільм быў больш цікавы і "смачны"!

Пасля кароткага адпачынку распачынаецца новы дзень. Перадусім з малітвы, потым – сняданне. Святую імшу на заканчэнне сустрэчы ўпрыгожваў той жа Полацка-Наваполацкі хор. Кс. Вячаслаў Адамовіч прамовіў да парафіян і маладых людзей гамілію. Вернікі падносілі ў дарах кветкі, крыж, пасхал, Гостыю як сімвал сваёй удзячнасці за Дар Веры.

Ад'язджаць вельмі не хацелася. Але моладзь зноў, у чарговы раз збіраецца прыехаць у Полацк, каб разам сведчыць аб сваёй веры і вызнаваць яе.




**Каталіцкі ВЕСНІК**
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:**
мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ»

**Выдавец:**
рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў РБ

**Галоўны рэдактар:**
кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:**
Дзмітрый Лупач
**Карэктары:**
Юрась Бабіч, Алена Пажога
Таццяна Смоткіна

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 8643

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3000 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 09.11.2012 г. у 18.59

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:**
211730, вул. Кірава, д.6, г.п. Бягомль, Докшыцкі р-н, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(02157)3-30-44
e-mail: katalickivesnik@gmail.com

ISSN 2224-9621


Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі РБ